5 красавіка 2019 | № 13 (624)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Хтосьці павінен пакаяцца**

Стар. 8

**4 ЧАМУ ТАК І НЕ АДБЫЛАСЯ ІНТЭГРАЦЫЯ ІНТЭГРАЦЫЙ**

Любыя спробы ажыццявіць інтэграцыю інтэграцый раўнасільныя спробам атрымання гібрыду вожыка і вужа, гібрыду натуральнай дзяржавы і парадку адкрытага доступу

**6–7 ШТО ЯШЧЭ ВЯДОМА ПРА ЗАБУДОЎШЧЫКА ЯЎРЭЙСКАГА ГЕТА**

Мы ведаем імёны ўсіх фігурантаў забудовы расстрэльных двароў Брэсцкага гета. Толькі ад іх залежыць, кім застануцца яны ў народнай памяці

**10 АХВЯРЫ «МЯДОВАГА МЕСЯЦА ДЫКТАТАРАЎ»**



**11 ШЛЯХЦІЧА З-ПАД КЛІЧАВА РЭПРЭСАВАЛІ ЗА ФОТА**

Бярнарда Чарнышэвіча расстралялі 17 верасня 1937 года ці то ў самім Бабруйску, ці то каля недалёкай вёсцы Міхалёва

# Не чапайце памяць!

## У Курапатах зносяць крыжы



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Здавалася б, гісторыя яшчэ сто гадоў таму навучыла: не чапайце крыжы, бо кепска скончыце.**




Фота Арцёма Лявы

Аднак беларускія ўлады, як тыя дрэнныя вучні, лічаць, што народная памяць — гэта жартачкі. Пасля таго, як падчас плыні свядомасці, якую чамусьці называюць «вялікай размовай», той, хто лічыць сябе кіраўніком Беларусі, выказаў незадавальненне крыжамі ў Курапатах, небяспека іх знішчэння залунала ў паветры. І вось сонечнай раніцай 4 красавіка выбухнула: у Курапатах тэхніка руйнуе крыжы.

Першая думка — як такое магчыма? Другая — ляцець, стаць перад экскаватарамі, абараніць. Трэцяя — Госпадзе, што я магу… І роспач. Злосць і роспач. Інакш, чым марадзёрствам і псаваннем магіл на дзяржаўным узроўні, на загад найвышэйшага кіраўніцтва, гэта назваць нельга. Атрымліваецца, з тых, хто ляжыць у Курапатах, паздзекаваліся двойчы: спачатку іх, ні ў чым не вінаватых, расстралялі сталінскія каты, а цяпер іх памяць знішчаюць сучасныя трымальнікі ўлады. Дзе, у якой яшчэ краіне такое магчыма?

«Яны знеслі ўсе крыжы па перыметры, пагрузілі на машыны і кудысьці павезлі. Ніякіх тлумачэнняў не даюць. Ніводнага чыноўніка, які б назіраў за тым, што адбываецца, і мог бы адказаць, на якой падставе гэта робіцца, не было. Адны міліцыянты, працоўныя і "іхтамнеты". Што тут будзе адбывацца — можна толькі здагадвацца. Бачна, што нейкі план у іх ёсць, але грамадству яго не агучваюць», — паведаміла «Новаму Часу» з месца падзей грамадская актывістка Ганна Шапуцька.

Злачынцы — іншай назвы для тых, хто ўчыніў гвалт з Народнага мемарыялу, папросту няма. Падышлі цішком, надосвітку. Падрыхтаваліся: ачапілі мемарыял, заблакавалі пад'езды. Ведалі, што людзі прыйдуць бараніць. І сталі выдзіраць, выкручваць з зямлі крыжы. Іх звальвалі ў кузавы грузавікоў, і яны бялелі, як трупы, як вырваныя жыўцом з цела рукі… Жахлівае відовішча. Працавалі хутка і спраўна: да адзінаццатай раніцы знеслі ўжо ўсе крыжы, усталяваныя летась па перыметры мемарыялу з ініцыятывы Змітра Дашкевіча.

Здзекліва накіроўвалі «пісаць афіцыйныя запыты» ў Мінлясгас, райвыканкам і да міліцэйскага кіраўніцтва. Што ж, хаця б зразумела, хто кіраваў выкананнем злачыннага загаду.

Думаеце, вы — валадары сітуацыі і цэлага свету? Уявілі сябе ўсёмагутнымі? Але ці ўсведамляеце вы, што здзекавацца з нацыянальнай катастрофы, з народнай памяці — гэта злачынства?

Гісторыя паўтараецца, і прымушае вывучыць незасвоеныя ўрокі. Тыя, хто зрываў крыжы з цэркваў і паліў іконы 100 гадоў таму, урэшце дрэнна скончылі. У час Вялікага посту, калі ўвесь хрысціянскі свет прыносіць пакаянне і рыхтуецца да Вялікадня — свята ўваскрэсення і вечнага жыцця, сімвал якога — крыж, чыніць здзек з гэтых самых крыжоў — замахнуцца на самае святое…

Злая іронія яшчэ ў тым, што знішчэнне крыжоў у Курапатах прыпала на Крыжапаклонны тыдзень у праваслаўнай царкве.

**Інакш, чым марадзёрствам і псаваннем магіл на дзяржаўным узроўні, на загад найвышэйшага кіраўніцтва, гэта назваць нельга**

На момант напісання гэтага матэрыялу прадстаўнік БПЦ айцец Сергій Лепін выказаў асцярожнае здзіўленне і занепакоенасць адносна зносу крыжоў у Курапатах. Выказаўся і прэсавы сакратар Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі ксёндз Юрый Санько. «Навошта, чаму, для чаго гэта робіцца? Вельмі шмат пытанняў узнікае. Крыж — гэта галоўны сімвал хрысціянства, сімвал збаўлення чалавецтва. І раптам бачым такое… Да таго ж мітрапаліт неадназова казаў: Курапаты — гэта наша Галгофа, а яе без крыжа ўявіць папросту немагчыма», — сказаў ён у каментары «Радыё Свабода».

Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч заявіла «Нашай Ніве»: «Я думаю, што Курапаты былі сімвалам народнай самастойнасці, народнай памяці. І дзяржава не хоча з гэтым мірыцца, асабліва перад выбарамі. Таму ідзе такая зачыстка. Гэта ўсё формы свабоды, а дзяржава не хоча мірыцца ні з якой свабодай. Што казаць, калі міністр унутраных спраў надзявае касцюм генерала НКУС і ідзе на нейкае святкаванне. І калі Лукашэнка выступаў, то сказаў міністру: "Вам няма чаго саромецца". Дзяржава не хоча мірыцца з рэпрэсіямі, прызнаваць іх. Дзяржава хоча пакінуць мінулае ў разуменні тых сталінскіх часоў. Курапаты — унікальны народны помнік. Сам народ знайшоў яму форму, сам народ ваяваў за яго, адваяваў яго. Нічога падобнага, колькі б я ні ездзіла па свеце, я не бачыла. І яны думаюць, што паставяць кавалак гэтага казённага каменю — і людзі пойдуць туды плакаць? Не, гэтага не будзе ніколі. І нават таму гэта злачынства».

«Замест належнага ўшанавання месца масавых расстрэлаў улада працягвае барацьбу з нацыянальнай памяццю і стварае глебу для канфрантацыі», — адзначаецца ў заяве Саюза Беларускіх пісьменнікаў з нагоды дзяржаўнага вандалізму ў Курапатах.

Але, калі ўлада імкнецца да гэтай канфрантацыі, то грамадскасць, здаецца, спрабуе салідарызавацца вакол пагрозы замаху на Народны мемарыял.

Бо калі нас не здольныя аб'яднаць Курапаты — нас не здольнае аб'яднаць нішто.

# Крымінальная справа супраць брэсцкага актывіста

**У машыне актывіста Майсея Мазько, які змагаецца з будаўніцтвам завода АКБ, знайшлі прадметы, падобныя на патроны і выбухоўку.**



«Фольксваген», на якім ехаў актывіст Майсей Мазько, 2 красавіка спынілі супрацоўнікі ДАІ. «Яны сказалі, што яго машына падобная на нейкі аўтамабіль з Высокага, пачалі правяраць машыну, папрасілі паказаць нумар на рамяні бяспекі пасажырскага пярэдняга сядзення. Убачылі ў салоне чорны пакет і спыталі, што за пакет. Мазько сказаў, што не ведае. Разгарнуў, а там прадметы, падобныя на патроны. Літаральна праз 5 хвілін пад'ехалі аператыўнікі ў цывільным. Праз некалькі хвілін яны з'ехалі, а пазней пад'ехалі супрацоўнікі Следчага камітэта. Зараз яны праводзяць агляд», — распавёў праваабаронца Раман Кісляк.

Пазней стала вядома, што ў тым жа пакеце знойдзены і прадмет, падобны на выбухоўку.

Паводле меркавання праваабаронцы, улады вырашылі перайсці да такіх грубых дзеянняў, як падкідванне забароненых прадметаў.

«У нас мірны пратэст, і спробы зрабіць з нас «тэрарыстаў» не пройдуць», — адзначыў Кісляк.

Паводле яго інфармацыі, машына, на якой ехаў актывіст, належыць не Мазько, а манастыру, у якім ён працуе загадчыкам гаспадаркі.

Пазней Майсея Мазько адвезлі ў ізалятар часовага ўтрымання Ленінскага РАУС Брэста. Супраць актывіста распачата крымінальная справа на падставе часткі 2 артыкула 295 КК Рэспублікі Беларусь. Артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе папраўчых работ на тэрмін да двух гадоў або арышт ці абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў, або пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі.

У доме ў сына Майсея Мазько, Дзяніса, таксама актывіста кампаніі супраць завода АКБ, правяліператрус, але ніякіх забароненых рэчываў і прадметаў не знайшлі.

Паплечнікі па пратэстах супраць будаўніцтва акумулятарнага заводу пад Брэстам перакананыя, што патроны і выбухоўку ў машыну Мазько падкінулі. Паводле іх словаў, за некалькі дзён да затрымання Майсей Мазько заўважыў, што за яго перамяшчэннямі сочаць невядомыя.

Жыхар вёскі Тэльмы Брэсцкага раёна Майсей Мазько з'яўляецца ўдзельнікам ініцыятыўнай групы супраць будаўніцтва акумулятарнага завода. Больш за год ініцыятыўная група жыхароў Брэста і раёна, а таксама яе прыхільнікі ўвесь час кажуць пра шматлікія парушэнні на розных этапах рэалізацыі праекта. Прадстаўнікі завода, прыродаахоўных арганізацый і чыноўнікі запэўніваюць, што асцярогі марныя і парушэнняў няма.

**Паводле b-g.by. Пераклад НЧ**

# «Не хачу вяртацца ў беспрацоўе і безграшоўе»

**Віляйчанка трапіла ў базу незанятых у эканоміцы і атрымала «дармаедскую» жыроўку.**

За пражыванне ў інтэрнаце яго жыхары плацяць немалыя грошы. Сям'я з трох чалавек — у межах ста рублёў, з чатырох — 140. Але для некаторых у сакавіцкіх жыроўках гэтыя сумы павялічыліся.

Юлія жыве ў адным з вілейскіх інтэрнатаў з мужам і сынам. Спачатку мела адзін пакой, пасля далі блок. Тут сям'я зрабіла добры рамонт. Жанчына працавала ў адным з будаўнічых прадпрыемстваў горада. Калі ж яно развалілася, засталася без працы.



— Наша Вілейка — невялікая. Знайсці працу тут немагчыма, — дзеліцца жанчына. — Тое, што прапаноўвалі, не задавальняла з-за малых заробкаў. Вырашылі з мужам паехаць зарабіць у Расію.

Цяпер сям'я жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу некалькі гадоў. Юля з мужам робяць рамонты праз пасярэдніцтва адной фірмы. Грошай хапае, каб наймаць у Санкт-Пецярбургу жыллё, нешта набыць для сябе і дапамагчы дарослаunion сыну-навучэнцу, які застаўся ў Вілейцы.

Атрыманая ў сакавіку жыроўка непрыемна здзівіла жанчыну. За гарачую ваду налічылі ў дзесяць рублёў больш, чым звычайна. Па просьбе Юліі блізкія ў Вілейцы пачалі разбірацца, чаму так здарылася. Атрымалі адказ: жанчына трапіла ў базу незанятых у эканоміцы.

— А чаму я тады ніякага ліста не атрымала? — не разумее Юлія.

Мы звярнуліся ў Вілейскую камісію па садзейнічанні працаўладкаванню. Тут сітуацыю патлумачылі так:

— У студзені і лютым незанятыя ў эканоміцы атрымлівалі жыроўкі са звычайнымі коштамі. Але ў жыроўках было пазначана: «Вы трапілі ў базу незанятых па эканоміцы. Калі не пацвердзіце сваю занятасць, будзеце плаціць за гарачую ваду па павышаным кошце».

Некаторыя вілейчукі за вызначаны час сваю занятасць пацвердзілі. Хто гэтага не зрабіў, трапіў у спісы, якія накіравалі ў ЖКГ. І там аплату за гарачую ваду налічвалі ўжо па павышаным кошце. Зрабілі пераразлік за люты і за студзень.

Цяпер Юліі за блок у інтэрнаце трэба заплаціць каля 110 рублёў. Грошы, на думку, жанчыны, немалыя. Да таго ж такую суму яна плаціць за жыллё, уласнікам якога не з'яўляецца. Як іншыя жыхары інтэрната, — яна наймальнік.

Якую працу прапануюць сёння ў Мінскай вобласці? На сайтах вакансій ёсць свежыя прапановы для жыхароў рэгіёна. У Маладзечне патрэбныя кіроўцы пагрузчыка. Заробак 650–700 рублёў.

Прарабу ў будаўнічай арганізацыі прапануюць 1500. Столькі ж — замершчыку пластыкавых вокнаў.

Афіцыянтам прапануюць ад 350 да 450. Прадаўцам — ад 400 да 600. Столькі ж, колькі іх калегам у Вілейцы і Астраўцы.

Па Вілейцы свежых вакансій менш. Аўтаслесар-механік — з заробкам ад 700 рублёў, кантралёр-касір — за 550.

У вілейскія аптэкі патрэбныя правізары. Заробак — 800 рублёў. Ветэрынарнаму доктару, які прыйдзе ў райветстанцыю, прапануюць менш за палову. У гімназію №2 на паўстаўкі патрэбны кладаўшчык. Заробак — 165 рублёў.

У Астраўцы шмат вакансій прапануе мясцовае ДРСУ. Тут патрэбныя і майстар, і дыспетчар, і кладаўшчык, і інжынер-энергетык, і кіроўца, і машыніст. Для ўсіх гэтых работнікаў заробак аднолькавы — 330 рублёў...

— І хто ж вінаваты, што ні ў Вілейцы, ні ў бліжэйшых райцэнтрах няма добрых заробкаў? — задае рытарычнае пытанне Юлія.

І дадае, што часам дамоў хочацца, але куды вяртацца? У беспрацоўе і безграшоўе?

**Паводле rh.by**

# «Неадкладна спыніць крымінальны пераслед блогера Сяргея Пятрухіна!»

**Грамадскія арганізацыі Беларусі выступілі з супольнай заявай наконт крымінальнага пераследу блогера Сяргея Пятрухіна.**

«У судзе Ленінскага раёна Брэста 9 красавіка распачнецца разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да вядомага брэсцкага блогера Сяргея Пятрухіна.

Пастанову аб прад'яўленні абвінавачвання Пятрухіну паводле часткі 2 артыкула 188 («Паклёп») і часткі 2 артыкула 189 («Абраза») Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь вынес 1 красавіка Брэсцкі міжраённы аддзел Следчага камітэту (СК). Падставай для прыцягнення блогера да крымінальнай адказнасці сталі відэаролікі, якія былі знятыя ў сакавіку і красавіку 2018 года і трансляваліся на відэахостынгу YouTube. У гэтых відэароліках Пятрухін заявіў аб датычнасці шэрагу супрацоўнікаў Ленінскага РУУС Брэста да збіцця ў міліцэйскім участку ў 2016 годзе грамадзяніна П. Камінскага.

Варта адзначыць, што збіты П. Камінскі звярнуўся з заявай у Следчы камітэт аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці супрацоўнікаў міліцыі Ленінскага РУУС Брэста, указаных у відэароліках С. Пятрухіна. Нягледзячы на тое, што экспертыза зафіксавала нанесеныя П. Камінскаму пабоі і не выключае іх прычыненне пры заяўленых Камінскім абставінах, СК вынес пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. З 2016 па 2019 гады было вынесена восем пастаноў аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, сем з якіх адмянялася вышэйстаячымі органамі СК і пракуратуры ў сувязі з непаўнатой праведзенай па заяве праверкі. На дадзены момант чарговая скарга на раней вынесеныя пастановы аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі накіраваны П. Камінскім на імя пракурора Брэста і ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з тым, што працэдура па праверцы заявы П. Камінскага аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці супрацоўнікаў міліцыі пакуль не скончаная, папярэдняга расследавання не праведзена, прыцягненне да крымінальнай адказнасці С. Пятрухіна з'яўляецца незаконным і неабгрунтаваным. Мы таксама лічым, што яго крымінальны пераслед мае палітычна-матываваны характар і звязаны выключна з рэалізацыяй С. Пятрухіным гарантаваных Канстытуцыяй і міжнароднымі нормамі права ў галіне правоў чалавека свабодаў — свабоды выказвання меркавання, збору і распаўсюду інфармацыі.

Дэкрыміналізацыя дыфамацыйных правапарушэнняў з'яўляецца стандартам, сфармуляваным і абгрунтаваным у рашэннях шэрагу міжнародных арганізацый. Міжнародныя органы, ААН і АБСЕ, рэкамендавалі скасаваць законы, якія прадугледжваюць крымінальную адказнасць за дыфамацыю, або, як мінімум, не пазбаўляць волі за здзяйсненне дыфамацыйных правапарушэнняў, прыняўшы за норму грамадзянска-прававы пераслед. Паўнамоцныя прадстаўнікі ААН, АБСЕ і ААД па пытаннях свабоды слова заяўлялі, што «крымінальны пераслед за дыфамацыю не з'яўляецца апраўданым абмежаваннем свабоды выказвання перакананняў; усе законы пра крымінальны пераслед за дыфамацыю падлягаюць адмене і замене, дзе гэта неабходна, грамадзянска-прававымі мерамі адказнасці».

Брэсцкі блогер Сяргей Пятрухін — сталы ўдзельнік акцый пратэсту супраць будаўніцтва экалагічна шкоднага акумулятарнага завода, раней неаднаразова затрымліваўся ў сувязі з гэтым супрацоўнікамі міліцыі. Таксама С. Пятрухін стаў вядомы дзякуючы шматлікім відэаролікам, якія крытыкуюць дзейнасць прадстаўнікоў мясцовай улады, у тым ліку і органаў унутраных спраў.

Апошнія выпадкі крымінальнага пераследу ў дачыненні да блогераў С. Пятрухіна, А. Кабанава і А. Павука выклікаюць нашу сур'ёзную занепакоенасць і могуць сведчыць пра ўзмацненне кантролю над інтэрнэт-сферай напярэдадні маючых адбыцца напрыканцы бягучага года выбарах.

У сувязі з гэтым, мы, прадстаўнікі праваабарончых арганізацый Беларусі, заклікаем:

- неадкладна спыніць крымінальны пераслед Сяргея Пятрухіна і зняць з яго ўсе прад'яўленыя абвінавачванні;
- не выкарыстоўваць Крымінальны кодэкс па справах, звязаных з дыфамацыяй».

Заяву падпісалі: Публічная ўстанова «Беларускі дакументацыйны цэнтр», РПГА «Беларускі Хельсінкі камітэт», ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», Беларускі ПЭН-цэнтр, Офіс па правах людзей з інваліднасцю, Праваабарончы цэнтр «Вясна», Камітэт рэпрэсаваных «Салідарнасць», Таварыства «Ініцыятыва FORB», Цэнтр прававой трансфармацыі «lawtrend», РГА «Прававая ініцыятыва», Кансультацыйны цэнтр па актуальных міжнародных практыках і іх імплементацыі ў праве «Хьюман Канстанта».

**Паводле spring.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Карова разладу і браты па няшчасці

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Парадаксальная сітуацыя — на тыдні пачаў працу парламент, прайшоў гэтак званы Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, а галоўная тэма размоваў — усё тая самая цялушка.**


Фота www.kp.by

Калі б у Беларусі была святая жывёла — гэта адназначна была б карова. Ніякая Індыя, дзе каровы лянотна разгульваюць па пляжах уздоўж акіяну, не можа параўнацца з культам каровы ў Беларусі. У Беларусі кароў транслююць у прайм-тайм па ўсіх дзяржаўных тэлеканалах, з-за іх ляцяць галовы ў чыноўнікаў самых розных рангаў, у імя чысціні каро́ўніка паміраюць людзі, а за карыкатуру на карову могуць забараніць прадаваць газету. Кампанія па абароне капытных, распачатая кіраўніком дзяржавы на мінулым тыдні, працягваецца дагэтуль.

Услед за чыноўнікамі пад нож пусцілі новы нумар «Белгазеты», якая крэатыўна асвятліла разнос, учынены Лукашэнкам на ферме ў Магілёўскай вобласці. Журналісты змясцілі карыкатуру на «аб....ую» карову і чыноўнікаў —удзельнікаў гэтага разносу, а таксама апублікавалі жартаўлівае інтэрв'ю з той самай каровай. Невядома, што больш абурыла Міністэрства інфармацыі, але на наступны дзень пасля выхаду нумара яно спусціла параду абмежаваць продаж нумара, а кіраўнік ведамства Алесь Карлюкевіч заявіў, што газета скацілася ў адкрытую пошласць і хамства.

Гэтымі ж днямі стала вядома пра трагічны інцыдэнт, які адбыўся напярэдадні прыезду Лукашэнкі ў агракомплекс «Купалаўскі». 50-гадовага эканаміста з Шклоўскага райвыканкама адправілі бяліць адзін з кароўнікаў, які належыць гэтаму комплексу, — чыноўнік памёр падчас працы, з вядром вапны ў руках.

Паводле сведчанняў сваякоў, кіраўніцтва райвыканкама рэгулярна адпраўляла сваіх падначаленых прыбіраць кароўнікі ды свінарнікі. Усе, канешне ж, едуць і прыбіраюць — знайсці працу са стабільным заробкам сёння ў рэгіёнах няпроста. Чаго ж абмяжоўвацца адной Магілёўшчынай? Прапануем Адміністрацыі прэзідэнта пераняць тактыку шклоўскіх крэатыўшчыкаў — відэасюжэт з Наталляй Качанавай, якая доіць карову ці дае свінням, стопрацэнтна палепшыць рэйтынг адміністрацыі і падмацуе імідж Лукашэнкі як добрага гаспадарніка.

Пакуль новыя тактыкі толькі абкатваюцца, дзеючая ўлада карыстаецца старой зарэкамендаванай тактыкай рэпрэсій ды запалохванняў. На Майсея Мазько, актывіста брэсцкай ініцыятыўнай групы, якая намагаецца спыніць будаўніцтва акумулятарнага завода ў горадзе, завялі крымінальную справу за незаконнае абарачэнне зброі і боепрыпасаў. Іншыя ўдзельнікі ініцыятыўнай групы выказалі з Мазько салідарнасць і назвалі ўсё, што адбылося, правакацыяй. Відавочна, ініцыятары будаўніцтва завода вырашылі падсмаліць пяты пратэстоўцам, таму можна чакаць далейшых правакацый.

Мала заўважаным — і гэта радуе — застаўся Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі 2 красавіка. І не проста чарговы дзень, у гэтым годзе «саюзнай дамове» спаўняецца 20 гадоў. Калі б не скандальная гісторыя ў адной са сталічных беларускамоўных гімназій, пра гэты дзень ніхто б і не прыгадаў. У сацыяльных сетках патрапіла афіша мерапрыемстваў да гэтага дня — тут і класныя гадзіны на тэму «Адзіны народ», і дэманстрацыя адпаведных відэаролікаў, і выстава.

Канешне, для кіраўнікоў дзяржаваў не заўважыць гэты дзень было б занадта дзёрзка, таму Лукашэнка і Пуцін абмяняліся віншаваннямі. Цікава, што Пуцін у сваім віншаванні называе беларускі і расійскі народы «братэрскімі», а вось у віншаванні Лукашэнкі гэты эпітэт адсутнічае, народы названыя ўсяго толькі «блізкімі партнёрамі» і «добрымі суседзямі». Шараговыя беларусы дык і не супраць назваць усходніх суседзяў «братамі» — дакладней, «братамі па няшчасці». У нас сапраўды шмат агульнага: аўтарытарныя кіраўнікі, адсутнасць дэмакратыі, засілле сілавікоў, карумпаваныя чыноўнікі — усяго і не пералічыць.

2 красавіка распачалася і чарговая сесія Палаты прадстаўнікоў. Дэпутаты заселі за працу ў кабінетах і абяцаюць цягам сесіі разгледзець каля 40 законапраектаў. Праўда, самы чаканы з іх — законапраект пра змены ў наркатычны 328 артыкул — можа зноў застацца непрынятым. Міністэрства ўнутраных справаў цвёрда стаіць на пазіцыях, што жорсткае антынаркатычнае заканадаўства дазволіла стабілізаваць наркасітуацыю ў краіне, і змяншаць ніжні парог пакарання не варта. Дэпутаты, якія яшчэ ўвосень гаварылі, што дакладна разгледзяць законапраект увесну, толькі пацiскаюць плячыма і ківаюць на МУС — маўляў, вырашаюць яны.

Баючыся, што законапраект пра змякчэнне пакарання застанецца забытым, маці з «Руху 328» сабраліся ля беларускага парламента ў дзень урачыстага адкрыцця сесіі. У выніку дзвюх прадстаўніц руху паабяцалі запрасіць у працоўную групу па абмеркаванні антынаркатычнага заканадаўства. Жанчыны спадзяюцца, што падчас размовы «лоб у лоб» у іх атрымаецца пераканаць МУС змяніць сваю пазіцыю. Спадзяванні, хутчэй за ўсё, марныя — наша міліцыя асаблівай дабрынёй ніколі не адрознівалася. Цяжка ўявіць, што можа прымусіць ведамства Шуневіча праявіць міласэрнасць — бадай, толькі калі стаць перад скульптурай гарадавога на калені.

**Услед за чыноўнікамі пад нож пусцілі новы нумар «Белгазеты», якая крэатыўна асвятліла разнос на ферме ў Магілёўскай вобласці. Журналісты змясцілі карыкатуру на тую самую карову і чыноўнікаў — удзельнікаў разносу, а таксама апублікавалі жартаўлівае інтэрв'ю з той самай каровай. Продаж нумару быў абмежаваны**

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Наталя Санько



**У апошні дзень сакавіка адляцела ў Вечны вырай светлая беларуская душа Наталі Санько.**

У мінулым нумары мы надрукавалі нарыс Уладзіміра Арлова пра спадарыню Наталю. «Найбольш шчаслівай Наталя адчувае сябе, вядома, у коле сям'і, дзе радуюць дачка Яніна і сын Кастусь ды светлая зорачка — унучка Міхаліна, — пісаў Арлоў. — А яшчэ мне цяжка ўявіць Наталю без кветак. У яе дома — маленькі, але вельмі густоўны ружоўнік і цудоўная калекцыя архідэяў. Няхай гэтыя кветкі радуюць яе яшчэ доўга-доўга!»

Мы ўсе спадзяваліся, што так яно і будзе. Што цяжкая хвароба адступіць, што гэта прыгожая і шчырая жанчына яшчэ падорыць нам шмат цікавых артыкулаў. Не атрымалася... 1 красавіка сваякі і сябры развіталіся з Наталяй Санько ў Чырвоным касцёле, а ля труны леглі яе ўлюбёныя белыя і чырвоныя ружы.



## Зміцер Паліенка

**Былому палітвязню, затрыманаму 20 сакавіка па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства паводле часткі 3 артыкула 339 КК («Асабліва злоснае хуліганства»), дагэтуль не прад'яўлена абвінавачванне.**

Пасля затрымання на 10 сутак, якія ён правёў у Ізалятары часовага ўтрымання, актывіста перавялі ў Жодзінскае СІЗА. Пра гэта стала вядома «Радыё Свабода» са слоў сяброўкі актывіста Насты Гусевай.

У Следчым камітэце БелаПАН заявілі, што пачалі крымінальную справу паводле заявы мінчука, які сцвярджаў, што Паліенка нібыта распыліў яму ў вочы пярцовы газ. Тэрмін утрымання падазронага Паліенкі пад вартай без выстаўлення абвінавачання скончыўся 30 сакавіка.

Адносна далейшага ўтрымання Змітра Паліенкі прадстаўнік СК спаслаўся на 118 артыкул Крымінальна-працэсуальнага кодэксу, які дазваляе па рашэнні следчага трымаць падазронага пад вартай больш за 10 дзён без выстаўлення абвінавачання.

Нагадаем, Змітра Паліенку брутальна затрымалі ў яго кватэры раніцай 20 сакавіка па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства паводле ч. 3 арт. 339 КК («Асабліва злоснае хуліганства»), а менавіта ў тым, што ён распыліў пярцовы балончык у твар мужчыну ў пад'ездзе жылога дому, дзе актывіст чакаў знаёмага.



## Генадзь Фядыніч

**Лідару прафсаюза РЭП вынеслі першае афіцыйнае папярэджанне. Ён распавёў сайту palitviazni.info, чаму ён парушыў рэжым адбыцця пакарання.**

Згодна з умовамі «хатняй хіміі», лідар прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч не можа знаходзіцца па-за межамі сваёй кватэры пазней 19.00 у будныя дні і не мае права пакідаць кватэру ў выхадныя. Таксама забаронена ўжываць алкаголь на ўвесь тэрмін пакарання — 4 гады. Супрацоўнікі міліцыі падчас усяго тэрміну кантралююць выкананне гэтых умоў, таму могуць прыйсці дадому да Фядыніча ў любы час дня і ночы.

У мінулую суботу прафсаюзны актывіст паведаміў, што да яго дадому прыйшлі супрацоўнікі міліцыі і затрымалі па падазрэнні ва ўжыванні алкаголю.

«На фоне стрэсу ў мяне нярэдка скача артэрыяльны ціск, — распавёў Генадзь Фядыніч. — У пятніцу на працы танометр паказваў 150–160, у суботу, якая была таксама працоўная, ціск ізноў узняўся да 160. Пад рукой лекаў не аказалася, калегі параілі выпіць крыху каньяку. Так і зрабіў. А каля дома ўжо чакала міліцыя».

Са слоў прафсаюзнага лідара, медыцынскі агляд паказаў у яго крыві наяўнасць алкаголю, хаця ніякіх дакументаў на рукі яму не далі.

3 красавіка, калі Генадзь Фядыніч пайшоў адзначацца ў Цэнтральны РУУС Мінска, яму вынеслі першае афіцыйнае папярэджанне за парушэнне ўмоў адбыцця пакарання.

«Мне сказалі, што нікога не хвалюе мой стан здароўя, правілы для ўсіх аднолькавыя», — дадае прафсаюзны лідар.

Як вядома, калі на працягу тэрміна пакарання будзе больш за тры папярэджанні, рэжым могуць змяніць на больш жорсткі.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чаму так і не адбылася інтэграцыя інтэграцый

## Марыць не шкодна, у тым ліку і разважаць пра магчымасць працаваць паводле аднолькавых правілаў на рынку ад Атлантыкі да Ціхага акіяну




**Як добра, што памыйка (інтэрнэт) не пакутуе на амнезію. Набіраю ў пошукавіку «інтэграцыя інтэграцый» — і адразу ж знаходжу артыкул адзінага палітыка (АП) «Аб лёсах нашай інтэграцыі», апублікаваны ў газеце «Известия» 17 кастрычніка 2011 года.**

Добрыя былі часы! У той год кожнаму ахвочаму зазірнуць за гарызонт зусім не было патрэбы караскацца на вяршыню гіганцкай секвоі. Можна было абысціся хвояй ці хаця б бярозкай. Не патрэбны быў і марскі бінокль — хапіла б і тэатральнага, каб, разгойдваючыся на галінцы, па складах і з выразам прачытаць, напрыклад, наступны фрагмент артыкула АП: «Грандыёзны, але цалкам рэалістычны праект стварэння Еўразійскага саюза тоіць вялізныя выгады для ўсяго кантынента. Магчымасць працы паводле аднолькавых правілаў на рынку ад Атлантыкі да Ціхага акіяна ўмацуе экспартны патэнцыял нашых прадпрыемстваў і прывабнасць нашых эканомік для замежнага бізнесу».

Спалучэнне грандыёзнасці з рэалістычнасцю на стадыі распрацоўкі праекта — гэта наша ўсё. Яго ніхто ў нас не забярэ. Мяркую, па той жа прычыне, па якой не зславілі «Няўлоўнага Джо» (якога — калі хто забыўся — ніхто і не спрабаваў злавіць).

Тым не менш падстава для хвалявання ёсць, таму прапаную паглядзець афіцыйную статыстыку. Але каб не марнаваць час на гартанне даведнікаў, я звярнуся па дапамогу да расійскага эканаміста Ігара Нікалаева, які істотную частку руціннай працы ўжо зрабіў: «Калі ў 2000 годзе доля Расіі ў беларускім экспарце складала 84,3%, то ў 2018 годзе — толькі 38,5%, у Казахстане вага Расіі за мінулыя гады знізілася з 19,5% да 8,5%, ва Украіне — з 34,5% да 7,7% (ну, Украіна наогул асаблівы выпадак). З імпартам з Расіі за гэтыя гады адбывалася тое ж самае. У Беларусі яго доля знізілася з 92,3% да 59,2%, у Казахстане — з 48,7% да 38,1%. Ва Украіне — з 26,2% да 14,2%».

### А ці быў хлопчык?

Дынаміка імпарту-экспарту — гэта для спецыялістаў. Простага чалавека такія лічбы не цікавяць. Але меў рацыю, тройчы меў рацыю АП, які знайшоў патрэбныя словы ў адказ на русафобскія стогны «пятай калоны»: «Людзям трэба на справе паказаць, што канкрэтна ім дасць гэты новы саюз. Даказаць, што інтэграцыйныя памкненні — не палітычныя ігрышчы, а рэальныя перадумовы далейшага паляпшэння дабрабыту чалавека».

АП, калі працаваў над тэкстам артыкула для газеты «Известия» ў 2011 годзе, натуральна, быў вымушаны пісаць у будучым часе. Але мне сёння ніхто не перашкаджае казаць не пра перспектывы, а пра дасягненні.

У лютым сярэдні беларускі працаўнік зарабіў 977,6 рубля, або 466 у доларавым эквіваленце. Да запаветных 500 долараў («святой лічбы»), упершыню паабяцаных яшчэ ў снежні 2009 года, дацягнуць так і не атрымалася. Дзесяць гадоў — два прэзідэнцкія тэрміны — праляцелі як адзін дзень! Але праляцелі яны нездарма, бо іх палёт суправаджаўся бесперапыннай дэманстрацыяй пераваг інтэграцыі інтэграцый. Ёсць што прыгадаць. Ёсць што расказаць дзецям і ўнукам.

За дзесяць гадоў «тлустыя нулявыя» ў Беларусі плаўна змяніліся «худымі дзясятымі» — і тое, што ўстойліва расло, гэтак жа ўстойліва пачало зніжацца. У Расіі — тая ж карціна. Праблемы ў яе эканоміцы выразна выявіліся ў канцы 2012 года, г.зн. яшчэ да «крымнаша» з яго санкцыямі і контрсанкцыямі.

Чаму ж «вестка аб фармаванні новага магутнага адзінага рынку з надзвычай сур'ёзным вытворчым, рэсурсным, інтэлектуальным патэнцыялам», якая, на думку АП, не выклікала ў знешніх цэнтраў энтузіязму, так і не ўвасобілася ў жыццё?

Тут самы час, як герой рамана пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага «Жыццё Кліма Самгіна», выгукнуць: «А ці быў хлопчык?». У нашай сітуацыі гэта азначае сумнеў у наяўнасці згаданых вышэй рэсурсаў і патэнцыялу.

Пра эканамічны патэнцыял любой краіны ў наш час прасцей за ўсё меркаваць па структуры яе экспарту. Вось якім ён быў у 2018 годзе ў Расіі — найбуйнейшай дзяржавы Еўразійскага эканамічнага саюза:

- мінеральныя прадукты — 64,79%;
- металы і вырабы з іх — 9,88%;
- прадукцыя хімічнай прамысловасці — 6,09%;
- харчовыя тавары і сельскагаспадарчая сыравіна — 5,53%;
- машыны, абсталяванне і транспартныя сродкі — 5,13%;
- драўніна і цэлюлозна-папяровыя вырабы — 3,10%;
- каштоўныя металы і камяні — 2,24%.

Пытанні ёсць? Пытанняў няма. 5% машын, абсталявання і транспартных сродкаў — такія лічбы ў каментарах не маюць патрэбы.

### Расія Ірландыі не супернік

Здавалася б, такая структура экспарту «нашай Расіі» павінна нас толькі радаваць — лепшай магчымасці для рэалізацыі патэнцыялу «былога зборачнага цэха СССР», мабыць, і не знайсці.

Чаму ж тады доля Расіі ў беларускім экспарце скарацілася за няпоўныя 20 гадоў з 84,3%, да 38,5%? Чаму, замахнуўшыся на інтэграцыю інтэграцый, мы сталі такімі неэфектыўнымі ў эканамічнай інтэграцыі з культурна блізкімі нам?

Расія перапоўненая нафтадаларамі. Яна можа набыць усё, што толькі пажадае. Яна і набывае, але не ў нас. Яна купляе там, дзе ўмеюць вырабляць не толькі традыцыйныя тавары больш танна і якасна, але і там, дзе наладжаны выпуск унікальных тавараў. А што ўнікальнага можа прапанаваць краіна, якая штогод падае не больш за дзясятак заявак на атрыманне міжнародных патэнтаў?

Тым не менш у Расіі і Беларусі на пачатку 1990-х гадоў быў шанц стаць эканамічнымі партнёрамі Захаду, без чаго немагчымая рэальная інтэграцыя інтэграцый.

Вось як гэту магчымасць тлумачыць расійскі эканаміст Уладзіслаў Іназемцаў: «Аграмадныя рэсурсы, якія на ўнутраным рынку былі ў разы танней, чым на сусветным, і маглі ў гэтай сітуацыі адыграць такую ж ролю ў развіцці зборачнай вытворчасці, якую ў Кітаі адыграла танная рабочая сіла; кваліфікаваны персанал, яшчэ не сапсаваны сучаснай «адукацыяй» і не занадта патрабавальны да высокіх даходаў; адносна ліберальная падатковая сістэма, якая магла заставацца такой яшчэ доўгія гады, калі б урад сцішыў свае аўтарытарныя і геапалітычныя амбіцыі, — усё гэта магло зрабіць Расію (і Беларусь. — рэд.) ідэальным месцам для еўрапейскіх інвестыцый».

Магло, але не зрабіла. Расійская і беларуская мадэлі сваімі сацыяльнымі і палітычнымі складнікамі не прывабілвалі сур'ёзных інвестараў. А з апорай на ўласныя сілы ні адной з «краін, якія даганяюць», яшчэ не атрымалася здзейсніць пераходу з трэцяга свету ў першы. Такі адзін з урокаў гісторыі. Для таго, каб у гэтым пераканацца, дастаткова прааналізаваць вопыт азіяцкіх «тыграў».

Зноў звярнуся па дапамогу да статыстыкі. У Топ-5 інвестыцыйна прывабных дзяржаў у 2017 годзе ўвайшлі (у мільярдах долараў): Кітай — 144, Ганконг — 85, Нідэрланды — 68; Ірландыя — 66 і Аўстралія — 60. Расія з 31 не трапіла і ў дзясятку. Прычым, калі параўноўваць паказчыкі, неабходна памятаць пра колькасць насельніцтва. У Ірландыі, напрыклад, у 2006 годзе пражывалі 4,2 мільёна чалавек.

### Дзе блат, там і карупцыя

Ад эканамічнай статыстыкі пяройдзем да азбукавых паліталагічных ісцін. Аўтары бестселера «Гвалт і сацыяльныя парадкі» нобелеўскі лаўрэат эканаміст Дуглас Норт і яго калегі Бары Вайнгаст і Джон Уолес выдзелілі два прынцыпова адрозных тыпы сацыяльнага парадку: натуральныя дзяржавы (НД) або парадак абмежаванага доступу і парадак адкрытага доступу (ПАД).

Калі адкінуць імітацыйную мішуру, дык варта прызнаць колькасную перавагу натуральных дзяржаў у сучасным свеце. У такіх дзяржавах, «абмяжоўваючы доступ да прывілеяў толькі чальцамі пануючай кааліцыі, эліты ствараюць надзейныя стымулы супрацоўнічаць, а не змагацца адзін з адным». Як гэта ажыццяўляецца на практыцы, кожны беларус мае магчымасць адчуць на ўласным досведзе, калі падасць дакументы на рэгістрацыю палітычнай партыі ці грамадска-палітычнай газеты.

Пры ПАД доступ да асноўных палітычных і эканамічных рэсурсаў з'яўляецца роўным і адкрытым. Атрыбутамі такога ладу робяцца незалежныя ад дзяржавы структуры прыватнага бізнесу і арганізацый грамадзянскай супольнасці, вяршэнства закона, надзейная сістэма прававых гарантый і свабодаў. Да пачатку XXI стагоддзя не больш за 25–30 дзяржаў здолелі падтрымаць развіццё такога парадку.

У НД пераважаюць асабістыя адносіны. Адна з найбольш папулярных формаў такіх адносін — блат. А дзе блат, там і карупцыя. Спробы барацьбы з карупцыяй у натуральнай дзяржаве чымсьці нагадваюць спробы пілаваць галіну, на якой трымаюцца ўсе НД. Такія дзяржавы не вызначаюцца стабільнасцю і не здольныя да ўстойлівага эканамічнага росту.

Таму за апошнія 15 гадоў не было ніводнага паслання АП, у якім бы не ўздымалася пытанне пра захаванне стабільнасці. Не стане выключэннем і новае чарговае пасланне, прызначанае на 19 красавіка.

***

Нескладана заўважыць, што ў межах тэорыі трох амерыканскіх эканамістаў любыя спробы ажыццявіць інтэграцыю інтэграцый раўназначныя спробам атрымання гібрыду вожыка і вужа, гібрыду натуральнай дзяржавы і парадку адкрытага доступу.

# «Каб справа рухалася, неабходна дзяліцца досведам»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Ігар Случак і Аліна Нагорная працуюць над тым, каб стварыць спрыяльныя ўмовы для выкарыстання беларускай мовы. Яны займаюцца абаронай моўных правоў і спрабуюць пашырыць ужыванне беларускай мовы ў розных сферах, спыніць дыскрымінацыю беларусаў паводле моўнай прыкметы. Яны стварылі ініцыятыву «Умовы для мовы», пра якую мы і паразмаўлялі.**



***— Над чым зараз працуе ініцыятыва «Умовы для мовы»?***

***Ігар:*** Зараз мы складаем рэйтынг «Самы беларускамоўны спартовы клуб Беларусі–2018», які будзе апублікаваны на сайце «Трыбуна» ў блогу «Мова Спартова». Паралельна з гэтым ідзе народнае апытанне на старонцы «Умовы для мовы» ў сацсетцы «ВКонтакте» за права насіць імя «Самы беларускамоўны футбольны клуб–2018». І ўжо хутка мы пабачым іх вынікі. Апытанне ў гэтай сацсетцы падтрымалі афіцыйныя старонкі беларускай федэрацыі футболу і вядучых беларускіх футбольных клубаў.

***Аліна:*** Таксама праз краўдфандзінгавую платформу talaka.org мы збіраем сродкі для выдання беларускамоўнай дзіцячай кніжкі. У ёй будуць пазітыўныя вершыкі для самых маленькіх, аўтарскія малюнкі, заданні і размалёўкі. Кніжкі падаруюць дзецям з розных дзіцячых установаў, дзе не хапае беларускамоўнай літаратуры.

Летась мы выдалі дапаможнік «Абаронім мову», у якім можна знайсці самыя запатрабаваныя прыклады зваротаў, патрэбных для пашырэння беларускай мовы, карысныя парады і спасылкі на заканадаўства, што рэгулюе моўныя правы. Прэзентацыі прайшлі ўжо ў сямі гарадах Беларусі. Мы бачым, што дапаможнік запатрабаваны, у нас амаль не засталося кніжак, першы наклад (600 асобнікаў) хутка разышоўся. Мы шукаем магчымасць перавыдаць дапаможнік і працягнем прэзентацыі.

***Ігар:*** Мы распачалі аўтарскую калонку «Умовы для мовы» ў «Новым Часе». Будзем публікаваць навіны, карысную інфармацыю, звязаную з пашырэннем беларускай мовы і абаронай моўных правоў. Кожны чытач можа ўплываць на яе змест ды звярнуцца да нас з прапановамі.

***— У вас невялікая каманда, але пра вас даволі шмат пішуць… Гэта вынік добрага піяру ці добрай працы?***

***Аліна:*** Гэта вынік таго, што кожны чалавек з каманды «Умовы для мовы» намагаецца займацца тым, што атрымліваецца найлепш менавіта ў яго. Мы шмат часу адводзім на планаванне і аналіз нашых моцных і слабых бакоў.

Напрыклад, калі Ігар робіць народнае галасаванне — ён камунікуе з футбольнымі клубамі, а я пішу пра гэта ў нашых сацсетках. Яшчэ адзін чалавек малюе выявы для пастоў, а чацвёрты — дыплом для пераможцы. Пяты дапамагае нам з тэхнічнымі рэчамі — напрыклад, раіць, на які час ставіць апытанку… І так мы намагаемся рабіць кожную справу. Бывае, што чалавек цалкам не задзейнічаны, напрыклад, у сферы спорту, але з задавальненнем камунікуе з бізнесоўцамі. Ці, напрыклад, не хоча выступаць публічна, але кансультуе, дапамагае з распрацоўкай зменаў у законы і маніторыць рэалізацыю моўных правоў у Беларусі. У нас кожны займаецца тым, чым хоча займацца, і што ў яго атрымліваецца. Мы не маем рэсурсаў, каб наняць чалавека на працу. Але мы можам прапанаваць зрабіць тое, што будзе цікава яму — і прынясе карысць іншым. Таму людзі далучаюцца. І гэта менавіта тыя, каму праца па абароне моўных правоў сапраўды важная.

***— Ужо ёсць чым падзяліцца? Можаце прыгадаць хаця б некалькі паспяховых вынікаў?***

***Ігар:*** Па-першае, з гэтага года асноўная інфармацыя на сайтах выканкамаў павінна быць па-беларуску. Мы кожны год пісалі ў выканкамы, Савет Міністраў і іншыя ўстановы, адказы за прыняцце рашэнняў, каб гэта зрабілі абавязковым. І зараз, калі норма набыла моц, будзем сачыць, каб яна выконвалася.

Па-другое, летась мы ў фармацэ дапаможніка «Абаронім мову!» распаўсюдзілі парады, узоры зваротаў і прыклады таго, як пашыраць беларускую мову. Мы бачым, што людзі карыстаюцца імі і што гэта працуе.

Па-трэцяе, беларускамоўная назва сеткі крамаў «Марцін». Гады тры таму мы пачалі з імі камунікаваць, зараз яны зрабілі рэбрэндынг — і замест лацінскіх літараў не па правілах беларускага правапісу цяпермы бачым кірылічную назву і па-беларуску.

Пашыраецца ўжыванне беларускай мовы і ў футболе. З кожным годам клубы ўсё больш выкарыстоўваюць беларускую мову. У кагосьці з'яўляюцца беларускамоўныя праграмкі, хтосьці пачынае пісаць па-беларуску прозвішчы гульцоў на футболках, па-беларуску робяць надпісы на абанементах і квітках…

***— А ў той жа час галоўны нацыянальны тэлеканал рускамоўны…***

***Ігар:*** Я звяртаўся ў Белтэлерадыёкампанію і Міністэрства інфармацыі наконт гэтага пытання, каб мінімум палова эфіру на дзяржаўных каналах была па-беларуску.

***Аліна:*** Мы працягнем гэтую тэму развіваць праз распрацоўку зменаў у закон «Аб сродках масавай інфармацыі». Увогуле, у нас ёсць ідэя распачаць школу па абароне моўных правоў, дзе мы будзем дзяліцца досведам з аднадумцамі, якія хочуць на экспертным узроўні абараняць моўныя правы. Каб гэта было якаснае навучанне, мы будзем рабіць невялікую каманду — да 10 чалавек. Зараз складаем праграму, вялікая частка якой будзе прысвечаная змене заканадаўства. Там не будзе сумных лекцый, будуць практычныя заняткі. З удзелам экспертаў навучэнцы будуць распрацоўваць змены і прасоўваць іх праз звароты, сустрэчы з прадстаўнікамі міністэрстваў, дэпутатамі парламента і іншымі адказнымі за вырашэнне пытанняў гульцамі, бо для кожнага закона гэта розныя асобы.

***— А што з адкрыццём беларускамоўных школ і садкоў? Што вы тут робіце, а можа, ужо зрабілі?***

***Ігар:*** Перад кожным навучальным годам я звяртаюся да Міндукацыі і ўсіх раённых і абласных выканаўчых камітэтаў з прапановай даць справаздачу пра колькасць навучэнцаў на беларускай і іншых мовах, а таксама прапаную павялічыць колькасць навучальных установаў усіх узроўняў, дзе беларуская мова з'яўлялася б мовай выкладання.

Але праблема ў тым, што артыкул 90 Кодэкса аб адукацыі недапрацаваны. Там пазначана, што чалавек можа атрымліваць адукацыю на дзяржаўных мовах. Але не прапісаны канкрэтны механізм: не пазначана, што беларускамоўныя класы, напрыклад, павінны быць у кожнай школе, беларускамоўны гурток павінен быць у кожным садку, каб бацькам не даводзілася губляць палову дня на дарогу. Бо шмат сітуацый, дзе бацькі ў тым жа Мінску не могуць знайсці беларускамоўны гурток у сваім раёне. Не прапісана, што кожны студэнт мае права абіраць, на якой мове яму слухаць лекцыі. Трэба ўнесці ў Кодэкс аб адукацыі канкрэтызуючыя выкарыстанне дзяржаўных моваў дапаўненні.

Мы раім бацькам быць актыўнымі і пісаць запыты, каб забяспечыць дзеткам беларускамоўны гурток у садку і беларускамоўны клас у школе. Таксама раім студэнтам выказваць сваё жаданне навучацца па-беларуску. Чым больш будзе запытаў, тым хутчэй займеем вынік. Варта, акрамя гэтага, і ў суд падаваць у выпадку адмовы ў праве на навучанне па-беларуску. Судзіцца па прычыне дыскрымінацыі паводле моўнай прыкметы.

***— Якім чынам свядомым грамадзянам развіваць свой, «беларускі свет», на практыцы?***

***Ігар:*** Трэба паказваць, што беларуская мова вам патрэбная. Напрыклад, ваш банк не абслугоўвае вас па-беларуску, ці сайт, якім вы карыстаецеся, не мае беларускамоўнай версіі, а ў краме, у якую вы ходзіце, няма беларускамоўных этыкетак. Пакажыце пісьмовым зваротам у банк, выканкам і адпаведнае міністэрства, што вам ва ўсіх пералічаных і іншых падобных выпадках патрэбна беларуская мова. Бо тут вашае права на мову парушаецца.

***Аліна:*** Ці, напрыклад, у вашым горадзе шыльды і ўказальнікі з назвамі вуліц толькі па-руску — пакажыце, што вам не ўсё роўна. І гэтым нагадайце тым, хто прымае рашэнні, што ў нас дзве дзяржаўныя мовы. Не трэба, як зараз часта бывае, крычаць і стагнаць у сацсетках. Лепш адразу дасылайце звароты да канкрэтнага чалавека або ўстановы — гэта працуе.

***Ігар:*** Магу дадаць, што, калі вы бачыце сапсаваную рускамоўную шыльду, можна звярнуцца ў выканкам і папрасіць, каб яе памянялі на новую, беларускамоўную. У гэтым выпадку, напрыклад, у Гомелі заўжды ўлады ішлі насустрач, і з'яўляліся новыя беларускамоўныя шыльды.

***— Вы дамагліся забеспячэння двухмоўя на ўказальніках назваў вуліц Гомеля і Баранавічаў, а ў Слуцку не атрымалася?***

***Ігар:*** Ініцыятыва не была падтрыманая Слуцкім выканкамам. У Гомелі і Баранавічах гарадскія ўлады пайшлі насустрач. Два супрацьлеглыя вынікі разгляду аднолькавых прапаноў паказваюць, што ў Беларусі па гэтым пытанні недасканалае заканадаўства. Кожны выканкам сам вырашае, як яго трактаваць, і гэта дэманструе, што ў Баранавічах і Гомелі былі сумленныя і адукаваныя кіраўнікі.

***Аліна:*** У Слуцку кіраўнікі не арыентаваныя на беларускасць і ў большасці не прыслухоўваюцца да мясцовых жыхароў. Ва ўсіх рэгіёнах, дзе мне даводзілася арганізоўваць мерапрыемствы, было прасцей. У Слуцку было забаронена шмат імпрэзаў, а тыя, што былі дазволеныя, праходзілі з рознымі перашкодамі з боку ўладаў. Я нават не ведаю, як гэта патлумачыць, — відаць, такая слуцкая традыцыя. Мноства ініцыятываў было задушана, шмат мастакоў і музыкаў ладзяць свае імпрэзы ў іншых гарадах і краінах, хаця спрабавалі пачынаць у Слуцку. Але калі твой канцэрт маніторыць 20 міліцыянтаў, ці «оўпэн-эйр» закрываюць праз 30 хвілін, хаця ён быў дазволены, або ты пераносіш чытанні вершаў у іншае месца, бо гэта «несанкцыянаванае масавае мерапрыемства», — гэта напружвае. Шмат маіх сяброў з'ехалі са Слуцку менавіта праз немагчымасць рэалізавацца ў творчасці.

***— А самі вы верыце ў беларускую будучыню нашай краіны?***

***Ігар:*** Я ўпэўнены ў тым, што Беларусь будзе беларускамоўнай — і адносна хутка. Але гэта адбудзецца толькі тады, калі мы разам актыўна пакажам, што нам тое патрэбна.

***Аліна:*** Паспяховыя краіны імкнуцца да сапраўднай незалежнасці, а нацыянальная мова і нацыянальная гісторыя — адны з асноўных яе чыннікаў. Такія краіны дасягаюць і вялікага эканамічнага поспеху. Я спадзяюся, што афіцыйная Беларусь гэта зразумее.




**Мая пазіцыя адназначная — будоўля павінна быць цалкам спыненая. «Прыбужскі квартал» не можа паўстаць на месцы болю і смерці тысячаў людзей. На месцы расстрэльных двароў мае паўстаць паўнавартасны мемарыяльны комплекс**

# Што яшчэ вядома пра забудоўшчыка яўрэйскага гета

Дзяніс ІВАШЫН

« Пачатак у №12

**Некалькі месяцаў трывае грамадскі розгалас вакол будоўлі ў цэнтры Брэста. Забудоўшчык ТАА «Прыбужскі квартал» на месцы знішчанай ім жа гістарычнай забудовы яўрэйскага гета спрабуе ўзвесці элітны жыллёвы комплекс прэміум-класа. У мінулым нумары мы прапанавалі вам азнаёміцца з гісторыяй дзейнасці забудоўшчыка. Прапануем працяг расследавання.**

## «Рентал Финанс» і «ГКМ Инжиниринг»

Адметна, што ТАА «Рентал Финанс» згодна з ЕГРЮЛ РФ было створанае ўсяго за два месяцы да ўвядзення яго ў склад заснавальнікаў «Маналіт Груп», якое адбылося ў лістападзе 2016 года. Кампанію заснавалі 21 верасня 2016 года ў Солнечнагорску Маскоўскай вобласці дзве юрыдычныя асобы — ТАА «Рентал Инжиниринг», уласнікам якой, як мы ўжо ведаем, з'яўляецца Яўген Чумак, і ТАА «ГКМ Инжиниринг». Памер долі абедзвюх у ёй складае па 50 працэнтаў.

Асноўным відам дзейнасці кампаніі «Рентал Финанс», нягледзячы на яе назву, з'яўляецца аптовы гандаль машынамі і абсталяваннем для здабычы карысных выкапняў і будаўніцтва. Паказальна, што кампанія «ГКМ Инжиниринг» заснаваная 15 студзеня 2014 года, у той жа дзень, што і «Рентал Инжиниринг».

## «ГКМ Инжиниринг»

Кампанію стварылі Аляксей Ермашоў і Яўген Чумак — яны мелі ў ёй аднолькавы памер долі ўласнасці ў 50%. Старшынёй наглядальнай рады з'яўляецца Мікалай Ермашоў. Асноўны від дзейнасці кампаніі — будаўніцтва жылых і нежылых будынкаў, колькасць супрацоўнікаў складае 130 чалавек.

Хаця кампанія і была зарэгістраваная інспекцыяй ФПС РФ па Кліну Маскоўскай вобласці, аднак юрыдычны адрас кампаніі на гэты момант знаходзіцца аж у Пермскім краі, горад Бярэзнікі. У гэтым горадзе, а таксама ў Салікамску, непадалёк ад Уральскіх гор, кампанія Яўгена Чумака і братоў Ермашовых будуе жылыя дамы для супрацоўнікаў ПАТ «Уралкалий».

Характэрна, што ў чэрвені 2017 года Яўген Чумак зменшыў сваю долю ў гэтай кампаніі на 5%, каб у склад заснавальнікаў увесці двух грамадзян Беларусі — намесніка дырэктара «Маналіт Груп» Андрэя Красінскага і Дзмітрыя Каваленку з роўнымі далямі па 2,5%. Апошні з'яўляецца на гэты момант генеральным дырэктарам «ГКМ Инжиниринг», да гэтага быў галоўным інжынерам «Маналіт Груп».



Падчас выставы «Будпрагрэс–2011» намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін (леваруч) высока ацаніў працу кампаніі, якую ачольваў на той момант Сяргей Ермашоў (праваруч). Фота znk.by



Гендырэктар «Уралкалия» Дзмітры Осіпаў, мэр г. Бярэзнікі Сяргей Дзьякаў і Мікалай Ермашоў закладаюць капсулу з пасланнем. Фота: v-kurse.ru

## ТАА «Сфера-СК»

Уласнік «Прыбужскага кварталу» Яўген Чумак пачаў супрацоўнічаць з сям'ёй Ермашовых у супольных бізнес-праектах, меркавана, з першай паловы 2000-х гадоў. Ён ачоліў створаную ў 2004 годзе кампанію ТАА «Сфера-СК», якая ўвайшла ў будаўнічы холдынг «Маналіт Груп». Прадпрыемства пачало сваю дзейнасць з засваення паставак будаўнічага абсталявання, а таксама сталася дылерам нямецкай кампаніі Peri — вытворцы апалубных сістэмаў.

Падчас расследавання высвятлена, што прадстаўніцтва Peri GmbH (ужо ліквідаванае), а таксама ЗТАА «ПЕРІ-апалубка і будаўнічыя рыштаванні» ачольваў Сяргей Аляксандравіч Ермашоў, меркавана, бацька Аляксея і Міколы Ермашовых.

«Сфера-СК» пачала актыўна нарошчваць свой камерцыйны патэнцыял — апроч продажу і надання ў арэнду будаўнічых матэрыялаў і абсталявання прадпрыемства пачало прадстаўляць у Беларусі сусветна вядомыя на будаўнічым рынку брэнды, звязаныя з вертыкальным грузавым транспартам і пад'ёмным абсталяваннем. «Сфера-СК» стала дылерам нямецкіх кампаній Stetter і Schwing, фінскай Scanclimber, амерыканскай JLG, іспанскай Pramac...

Прадпрыемства надавала свае паслугі, і перадусім будаўнічую тэхніку, для пабудовы самых маштабных аб'ектаў у Беларусі — Нацыянальнай бібліятэкі, Палацу Рэспублікі, Мінск-Арэны, Чыжоўка-Арэны, стадыёну БАТЭ, Шклоўскай папяровай фабрыкі і шмат іншых. Рабіла шэф-мантаж свайго абсталявання для здзяйснення фасадных працаў першага энергаблоку Астравецкай АЭС, надавала пад'ёмнік для правядзення маналітных працаў на гэтым аб'екце.

Значны фінансавы крызіс закрануў не толькі ТАА «Маналіт Групп», але і кампаніі, якія ўваходзяць у яго холдынг. 13 верасня 2017 года кампанія «Сфера-СК» падала заяву ў Эканамічны суд пра добраахвотнае банкруцтва ў сувязі з неплацежаздольнасцю, якая мае трывалы характар. На пачатку траўня 2018 года Эканамічны суд Мінскай вобласці ўхваліў пастанову пра пачатак ліквідацыйнага працэсу.

З матэрыялаў справы вядома, што «Сфера-СК» мае вялізную запазычанасць перад крэдыторамі, адным з якіх з'яўляецца ЗАТ «ДэльтаБанк». Агульная сума пазыкаў кампаніі складае 4 137 603 рублёў (паводле тагачаснага курсу — больш за 2 мільёны долараў). Фінансавы крызіс спрычыніўся нават да грашовых патрабаванняў «Сфера-СК» да «Маналіт Груп». Паводле інфармацыі, пададзенай на інфармацыйным рэсурсе Вярхоўнага суда, Эканамічны суд Магілёўскай вобласці ў кастрычніку 2018 года пачаў загадную вытворчасць по да патрабавання ТАА «Сфера-СК» спагнаць з «Маналіт Груп» (перайменаванай ужо на «ЖылРусБуд») пазыку ў памеры 636 712,33 беларускіх рублёў (звыш за 300 тысяч долараў).

Паводле інфармацыі Вярхоўнага суда РБ, эканамічныя суды Мінскай, Магілёўскай вобласці і Мінска пачалі разгляд фінансавых патрабаванняў фізічных і юрыдычных асобаў у адносінах да «ЖылРусБуда» па не менш як дзесяці справах з агульнай сумай прыблізна 1,5 мільёна рублёў. Сюды трэба дадаць яшчэ і запазычанасць перад бюджэтам прыблізна на гэтую ж суму.

## ТАА «Зялёная гавань»

Яшчэ адным актывам братоў Ермашовых і, верагодна, Яўгена Чумака з'яўляецца ТАА «Зялёная гавань», зарэгістраваная Мінскім райвыканкамам 21 верасня 2015 года. Юрыдычны адрас кампаніі знаходзіцца ў вёсцы Баравая

Мінскага раёна. Старшынёй нагляднай рады і дырэктарам прадпрыемства з'яўляецца Аляксей Ермашоў. Асноўныя віды дзейнасці: рэалізацыя праектаў, звязаных з будаўніцтвам, набыццё і продаж уласнай нерухомай маёмасці, дзейнасць фізкультурна-спартыўных пабудоваў.

Паказальна, што паводле асабістага ўказу Аляксандр Лукашэнка ў жніўні 2016 года перадае «Зялёнай гавані» — кампаніі, якая існуе на той момант менш за год, — спартова-турыстычны гольф-комплекс у Мінскім раёне для заканчэння будаўніцтва. Адбываецца гэта нягледзячы на істотныя фінансавыя праблемы з «Маналіт Груп». Раней гэтую пляцоўку для пабудовы жылога комплексу «Грынвіч» на працягу некалькіх гадоў спрабаваў засвоіць украінскі банкір Мікалай Лагун і прэзідэнцкі спартовы клуб.

Паводле ўказу Лукашэнкі, «Зялёная гавань» павінна да канца 2030 года забяспечыць будаўніцтва і ўвядзенне ў эксплуатацыю жылога комплексу, утрыманне і выкарыстанне гольф-палёў. Агульная тэрыторыя, якая трапляе пад забудову, складае 380 гектараў. «Зялёнай гавані» нададзеныя эканамічныя прэферэнцыі, яна вызваленая ад зямельнага падатку.

Апроч гэтага, вызначана, што спартовай часткай праекту займаецца іншы актыў Ермашовых — ТАА «Квадрат Груп», а працы па будаўніцтву інжынерных сетак, камунікацый, дарогаў і праездаў у гольф-клубе здзяйсняе «СУ-3 Белбуд».




## ТАА «СУ-3 Белбуд»

Пазначаны ў выпісе АДР нумар тэлефону кіраўніка кампаніі «Маналіт Груп» («ЖылРусБуд») цалкам супадае з кантактным тэлефонам ТАА «СУ-3 Белбуд» (рус. «СУ-3 Белстрой»), якое займаецца будаўніцтвам жылых і прамысловых будынкаў. Кампанія знаходзіцца на вуліцы Сяліцкага, дом 37, там жа, дзе «Рэалці Інжынірынг» і месціўся «Маналіт Груп». Кампанія «СУ-3 Белбуд» з'яўляецца генпадраднай арганізацыяй, дзейнасць якой звязаная з маналітным домабудаўніцтвам. Паводле інфармацыі з сайту прадпрыемства што да збудаваных аб'ектаў і тых, якія яно будуе, можна з вялікай доляй верагоднасці сцвярджаць, што яно з'яўляецца своеасаблівым пераемнікам «Маналіт Груп».

У гэты момант «СУ-3 Белбуд» працягвае рэалізоўваць у якасці генеральнага падрадчыка будаўніцтва гандлёва-забаўляльнага цэнтру «Трыніці» ў Гродне, жылых комплексаў «Пірс» у аграгарадку Ратамка і «Новая Баравая» ў вёсцы Копішча Бараўлянскага сельсавета Мінскага раёна.

Выяўлена, што «СУ-3 Белбуд» таксама пэўны час было зарэгістравана ў Шчомысліцкім сельсавеце, дом 16, пакой 26-1/1. У суседнім пакоі — 26-2/1 — знаходзілася кампанія ТАА «СУ-2 спецбудэнерга» (рус. «СУ-2 спецстройэнерго»). У гандлёвым анлайн-каталогу tam.by гэтая кампанія зарэгістраваная як «СУ-2 спецстрой Монолит Груп». Меркавана, гэта яшчэ адзін з актываў братоў Ермашовых і Яўгена Чумака, які ў лютым 2019 года быў ліквідаваны праз банкрутства.

Найбольшую цікавасць у святле пабудовы «Прыбужскага квартала» на месцы расстрэльных двароў брэсцкага гета мае той факт, што кампанія-пераемнік «Маналіт Груп» — ТАА «СУ-3 Белбуд» працягвае будаўніцтва жылога комплексу еўрапейскага ўзроўню «D3» ля праспекту Пераможцаў і вуліцы Ратамскай у Мінску (мікрараён «Лебядзіны»). Галоўным інвестарам праекту выступае кампанія Svitland Development, якая інвестуе ў будаўніцтва аб'екту больш за 30 мільёнаў доляраў. Гэта дэвелаперская кампанія, якая працуе на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Літвы з 2006 года.

Гэтая кампанія з'яўляецца даччыным прадпрыемствам інвестыцыйнага холдынгу Fishman Group. Бізнес-партнёры Яўген Чумак і браты Ермашовы збудавалі разам з кампаніяй Svitland Development ужо дзве чаргі жылога комплексу «D3».

Зараз здзяйсняецца пабудова трэцяга дому, здача якога запланаваная на IV квартал 2019 года. Ці ведае генеральны дырэктар Svitland Development Іосіф Фрыдман, ці ведаюць грамадзяне Ізраілю і прадстаўнікі яўрэйскай дыяспары ў Беларусі і ва ўсім свеце, што кампанія супрацоўнічае з забудоўшчыкамі аднаго з самых вялікіх гета на тэрыторыі Еўропы? Ці змогуць яны змірыцца з тым, што, пасля выяўлення на будпляцоўцы больш за 1140 парэштказ забітых гітлераўцамі яўрэяў, працы на ёй могуць быць працягнутыя?

Мая пазіцыя тут адназначная — будоўля павінна быць цалкам спыненая, выкананне праекта скасаванае. «Прыбужскі квартал» не можа паўстаць на месцы болю і смерці тысячаў людзей. Знішчаная гістарычная забудова яўрэйскага гета, праз што здзейсненая значная шкода для гісторыка-культурнай спадчыны Брэста, але памяць яшчэ можна і неабходна захаваць. На месцы расстрэльных двароў мае паўстаць паўнавартасны мемарыяльны комплекс.

У выніку праведзенага расследавання раскрываем таксама інфармацыю і пра падрадчыка, які непасрэдна рэалізуе праект пабудовы «Прыбужскага кварталу».

## ТАА «ЧЫАСбуд»

Падрадчыкам у пабудове «Прыбужскага кварталу» з'яўляецца кампанія ТАА «ЧЫАСбуд» (рас. «ЧИАСстрой»), зарэгістраваная Мінскім гарвыканкамам 19.10.2017 года. Уласнікамі кампаніі з красавіка 2018 года з'яўляюцца Раіса Віктараўна Дроб і Наталя Мікалаеўна Несцяровіч, якія маюць памер долі па 50 працэнтаў. Аднаасобнымі ўласнікамі да іх цягам некалькіх месяцаў былі Мікіта Самахвалаў і Уладзімір Яфімчык. Кіраўнік кампаніі з моманту заснавання — ІП Дзмітрый Уладзіміравіч Мазоль.

На галоўнай старонцы сайту кампаніі пазначана, што яна мае вялікі досвед будаўніцтва, аднак у крыніцах адкрытага доступу, апроч рэгістрацыйных дадзеных, няма аніякіх звестак пра яе і пра аб'екты, якія яна магла збудаваць за амаль год сваёй дзейнасці.

Магчыма, гэтая кампанія таксама створаная для рэалізацыі праекту пабудовы «Прыбужскага кварталу». На інфармацыйным рэсурсе РУП «Белбудцэнтр» маюцца дадзеныя, што атэстаты адпаведнасці з правам выканання функцыяў генеральнага падрадчыка і будаўніцтва аб'ектаў першага-чацвёртага ўзроўню складанасці «ЧЫАСбуд» атрымаў толькі ў красавіку 2018 года. Апроч гэтага вызначана, што кампанія не пацвердзіла атэстат адпаведнасці што да будаўніцтва аб'ектаў.

Без статусу пацвярджэння будоўлю аб'ектаў пазначанага ўзроўню складанасці здзяйсняць нельга. Верагодна, кампанія супрацоўнічае менавіта з субпадрадчыкамі, аднак спраўдзіць гэта павінны дзяржаўныя органы будаўнічага нагляду.

У выніку журналісцкага расследавання выяўлены бенефіцыяр кампаніі-забудоўшчыка яўрэйскага гета, а таксама яго бізнес-партнёры і большасць іх супольных актываў. Грамадзянская супольнасць Беларусі цяпер ведае ўсе іх імёны.

Старшыня Брэсцкага гарвыканкаму Аляксандр Рагачук афіцыйна запэўніў, што на месцы выяўленых чалавечых парэштказ не будуць размешчаныя аніякія аб'екты: «На месте захоронения не будет ничего, кроме зеленых газонов. Даже парковочных мест, детских площадок там не будем размещать».

Паводле справаздачы пра ацэнку ўздзеяння на навакольнае асяроддзе (рас. ОВОС), якую выканала для забудоўшчыка кампанія ТАА «БудПраТэхБрэст», пад забудову «Прыбужскага кварталу» патрапляе некрафацыя яўрэйскага гета, перапахаванне з якога на Трышынскі цвінтар адбылося напрыканцы 1950-х гадоў. Некрафацыя — гэта лакалізаваная на мясцовасці тэрыторыя пахавання, а таксама месца масавага знішчэння альбо гібелі людзей, нават пасля эксгумацыі і пераносу парэштак загінулых. Згодна з дакументацыяй, гэтая тэрыторыя знаходзіцца на месцы, дзе забудоўшчыкам запланаваны заезд на пляцоўку і паркоўка на 46 машынамесцаў.

Мы спалучылі мапу з пазначанай у ёй тэрыторыяй некрафацыі, пададзенай у справаздачы, з планам размяшчэння будаўнічых аб'ектаў. У выніку можна сцвярджаць, што першы пад'езд запраектаванага жылога будынку «Прыбужскага кварталу» патрапляе наўпрост на тэрыторыю некрафацыі.

Паводле логікі і словаў Аляксандра Рагачука вынікае, што і на тэрыторыі першай выяўленай некрафацыі, перапахаванне масавых ахвяраў Халакосту з якой адбылося напрыканцы 1950-х гадоў, таксама нічога не павінна знаходзіцца, апроч зялёных газонаў.

«Новы Час» будзе сачыць за сітуацыяй, развіццё якой можа цалкам пайсці ў рэчышчы кан'юнктурнага развязання праблемы на карысць кампаніі-забудоўшчыка. Прыкладаў грэблівага і адкрыта здзеклівага стаўлення да гістарычнай памяці ў сучаснай гісторыі Беларусі вельмі шмат. Чаго вартая толькі пабудова рэстарацыйна-забаўляльнага комплексу «Поедем поедим» (колішні «Бульбаш-хол») у ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці 1-й катэгорыі «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940 гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты».

Мы ведаем імёны ўсіх фігурантаў забудовы расстрэльных двароў Брэсцкага гета. Толькі ад іх залежыць, ці застануцца яны ў народнай памяці як тыя, хто звязаны з належным ушанаваннем гістарычнай памяці і пабудовай паўнавартаснага мемарыяльнага комплексу на месцы пакутніцкай смерці людзей, ці як тыя, хто ў пагоні за камерцыйнай нажывай дэсакралізаваў месца болю і апошніх секундаў жыцця тысячаў жыхароў Брэста.



**Лічбамі пазначанае: 1 – месца вызначанай некрафацыі, перапахаванне з якой адбылося на Трышынскі цвінтар. 2 – лакалізацыя прыблізнага месца выяўлення новых парэштказ з студзеня па сакавік 2019 года.**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Лепшы першакрасавіцкі жарт

Як вядома, 1 красавіка многія выданні публікуюць усякія фэйкавыя навіны. На гэты раз найбольш гучнай з іх, верагодна, стала публікацыя ў казахстанскай «Стабільнай газеце». На сайце выдання з'явілася паведамленне, згодна з якім з 1 красавіка прэфікс «Нур» стане абавязковым дадаткам да прозвішчаў казахаў. «Ахметаў стане Нур-Ахметавым, Іваноў стане Нур-Іваноў, Кім стане Нур-Кім і гэтак далей», — паведамлялася ў нататцы. У якасці доказу публікаваўся новы ўзор пасведчання кіроўцы, што было выпісанае на жанчыну з прозвішчам Нур-Афанасьева. Прыфікс «Нур», сцвярджаў аўтар, будзе сімвалам пасляховасці, падобна прэфіксу «Аль» у арабскіх прозвішчах, што з'яўляецца ўказаннем на высокі статус носьбіта. Хаця прозвішча аўтара было яўна жартаўлівым, у навіну нечакана паверылі. Шматлікія сайты і блогеры перадрукавалі пасведчанне Нур-Афанасьевай. Безумоўна, гэтаму спрыяла нядаўняе перайменаванне сталіцы Казахстана ў гонар Нурсултана Назарбаева. У выніку афіцыйны прадстаўнік МУС вымушаны быў заклікаць грамадства не давяраць чуткам пра «нурсултанізацыю».

**Паводле казахстанскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Brexit знішчыць сучасны футбол?

З такім тэзісам выступіла некалькі еўрапейскіх спартыўных эканамістаў. На іх думку, абсалютна непрадказальныя перспектывы Вялікабрытаніі наконт фармату выхаду з Еўрасаюза так ці інакш негатыўна адаб'юцца на эканоміцы Альбіёна і на курсе фунта. Гэты трэнд, у сваю чаргу, паўплывае на становішчы Англійскай Прэм'ер-лігі (для даведкі, самы папулярны чэмпіянат у свеце). Таксама яна з'яўляецца самай прыбытковай футбольнай лігай: кансалідаваныя клубныя даходы ў мінулым сезоне склалі больш за 3 мільярды фунтаў. Спецыялісты не сумняваюцца, што паслабленне фунта прымусіць кіраўніцтва клубаў зменшыць ганарары футбалістам і аслабіць магчымасці брытанцаў на сусветным рынку гульцоў. Акрамя таго, еўрапейцы, якія гуляюць у прэм'ер-лізе, будуць лічыцца замежнікамі, а на іх колькасць ёсць абмежаванне. Відавочна, што давядзецца фармалізаваць статус трэнераў з краін ЕС, якія працуюць з англійскімі клубамі. Усяго гэтага дастаткова, каб выклікаць у глабальным футболе хаос, які як мінімум прымусіць ствараць новую структуру.

**Паводле французскай прэсы**

### РАСІЯ. Чарговыя хвалі арыштаў

Па Расіі пракацілася хваля арыштаў буйных экс-чыноўнікаў. Так, па падазрэнні ў махлярстве і арганізацыі злачыннай супольнасці затрыманы экс-міністр Міхаіл Абызаў. На думку экспертаў, яго арышт — толькі першы этап у чарадзе гучных крымінальных спраў, фіналам якіх стане арышт Анатоля Чубайса, які быў начальнікам Абызава. Зрэшты, ёсць меркаванне, што арышт Чубайса патрэбен уладзе не для дэманстрацыі справядлівасці. Імя Чубайса стала сімвалам вельмі непапулярнай у народзе прыватызацыі 1990-х гадоў. Нават у асяроддзі Пуціна даўно гучаць заклікі расправы над «Рудым» (мянушка Чубайса). З улікам эрозіі «крымскага кансенсусу», на якім трымаўся рэйтынг Пуціна, Крамлю патрэбна новая тэма для каналізацыі пратэстных настрояў. «Суд над Чубайсам і над 1990-мі, і над прыватызацыяй, і над капіталізмам са штодзённымі справаздачамі з залы суда — гэта ж можна зрабіць круцей за Крым? Чубайс — новы Крым», — піша прэса. Зрэшты, ёсць меркаванне, што Чубайса ўсё ж не будуць чапаць, паколькі ён, нібыта, мае смяротны кампрамат на Пуціна.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Двухсотгоддзе замаху

«Здраднік радзімы!» — з такімі словамі 200 гадоў таму, 23 сакавіка 1819-га, 24-гадовы студэнт Карл Санд забіў кінжалам Аўгуста фон Кацэбу. Апошні быў агентам Расійскай імперыі, якая ў той час падтрымлівала ў Германіі ўсе рэакцыйныя сілы. Пасля забойства студэнт спрабаваў забіць сябе, аднак яго паспелі схапіць і пазней адправілі пад суд, які прыгаварыў Карла да адсячэння галавы. У прынцыпе, такія замахі адбываліся і раней. Аднак цяпер на двары было XIX стагоддзе, калі ў Еўропе ішло нацыянальнае адраджэнне. Як следства, раптам Карл Санд ператварыўся ў сапраўднага куміра немцаў. Фрагменты эшафота, на якім студэнту адсеклі галаву, зрабіліся сувенірамі, а на магілу Карла Санда пачалі вадзіць экскурсіі з усёй Германіі. Шмат літаратараў (напрыклад Аляксандр Пушкін або Аляксандр Дзюма) прысвяцілі нябожчыку творы. Пасля аб'яднання Германіі Карл Санд стаў афіцыйным героем. Пра яго жыццё нават знялі тры фільмы. З улікам ролі Санда ў гісторыі Германіі, цяперашняя нямецкая прэса не магла не ўзгадаць 200-ю гадавіну забойства Аўгуста фон Кацэбу. Праўда, на гэты раз адзначаецца, што тэракт Карла Санда меў таксама негатыўныя наступствы. Ён стаў падставай для моцных рэпрэсій супраць нацыянальнага руху, што адтэрмінавала стварэнне адзінай нямецкай дзяржавы.

**Паводле нямецкай прэсы**



Фота www.newrezume.org

# Хтосьці павінен пакаяцца

**Прэзідэнт Мексікі Мануэль Лопес Абрадор запатрабаваў прабачэнняў ад Іспаніі і Ватыкана за даўні гвалт канкістадораў. Іспанцы, у сваю чаргу, прапануюць мексіканцам пакаяцца за свае прозвішчы.**

Як вядома, тэма прызнання гістарычнай віны вельмі папулярная ў міжнароднай палітыцы. Цяпер да гэтага далучылася Мексіка. Мануэль Лопес Абрадор, новы прэзідэнт Мексікі, нечакана накіраваў іспанскаму манарху ліст з патрабаваннем выбачыцца за знішчэнне мясцовых індзейцаў у часы каланізацыі Амерыкі. Сваё патрабаванне мексіканскі гарант суправадзіў відэасюжэтам, у якім ён выступае на фоне руін аднаго са старажытных гарадоў індзейцаў. Палітык нагадвае гледачам, што тэрыторыя сучаснай Мексікі была заваяваная іспанцамі «крыжам і мячом»: «Гэта была заваёва, а не мірнае перасяленне, і сёння Іспанія павінна папрасіць прабачэння за дзеянні сваіх падданых у той час».

Сваю заяву мексіканскі лідар прымеркаваў да 500-й гадавіны прыбыцця ў Мексіку групоўкі Эрнана Картэса, што высадзілася ў лютым 1519-га каля сучаснага Веракруза. Адтуль пачаўся наступ на сталіцу ацтэкаў, якую з часам знішчылі. Разгром імперыі ацтэкаў дазволіў іспанцам закласці аснову іх панавання ў Новым Свеце. У тым ліку стварыць віцэ-каралеўства Новая Іспанія, якое пазней стала Мексікай.

Наогул, у Мадрыдзе цяпер пры ўладзе знаходзяцца сацыялісты пад кіраўніцтвам Педра Санчаса, якія па логіцы жанру павінны асуджаць каланіяльную спадчыну. Таму адказ іспанскага МЗС гучыць вельмі абстрактна: «Урад Іспаніі заяўляе пра сваю гатоўнасць працаваць разам з урадам Мексікі і будаваць належную аснову для паглыблення адносін дружбы і супрацоўніцтва». Дадаецца, што падзеі, якія здарыліся шмат стагоддзяў таму, нельга разглядаць у сучасных маральна-палітычных катэгорыях.

А вось іншыя партыі не стрымліваюць сябе ў выразах. «Словы мексіканскага прэзідэнта — гэта праява нецярпімасці ў адносінах да іспанскага народу. Так дзейнічаюць папулісты, якія фальсіфікуюць гісторыю і шукаюць канфрантацыю», — кажа адзін з апазіцыянераў. Праўдзіўр ультраправай партыі Vox увогуле на знак пратэсту зрабіў фотасесію ў шлеме канкістадора.

Цікавы аргумент у абарону іспанскай каланізацыі агучыў лідар мадрыдскіх кансерватараў. Ён прызнаў жорсткасць канкістадораў, але пры гэтым заклікаў параўнаць наступствы каланізацыі іспанцаў і іншых еўрапейскіх нацый. Іспанцы так ці інакш спрабавалі ўключыць індзейцаў у каланіяльныя інстытуты. А вось англічане і амерыканцы тубыльцаў татальна знішчалі.

**Заява Мануэля Абрадора — не што іншае, як пошук новай канцэпцыі мексіканскай дзяржаўнасці, фундаментам якой будзе комплекс гістарычнай ахвяры**

Пакрыўдзілі навіны з Мексікі і тутэйшую інтэлектуальную эліту, паколькі сучасная Мексіка так ці інакш з'яўляецца шмат у чым прадуктам іспанскай цывілізацыі, якую прынёс каталіцызм. Вядомы іспанскі пісьменнік Артур Перэс-Рэвертэ заклікаў прэзідэнта Мексікі прынесці прабачэнні за тое, што «яны (мексіканцы) носяць іспанскія прозвішчы» і «наогул жывуць там».

Гісторыкі заклікаюць не забываць, што Картэс змог перамагчы ацтэкаў выключна за кошт саюзнікаў — індзейцаў, якіх тыя самыя ацтэкі прыгняталі. Без іх дапамогі такая грандыёзная справа, як заваяванне імперыі ацтэкаў, была ілюзіяй.

Некаторыя баяцца, што заява Абрадора — не што іншае, як пошук новай канцэпцыі мексіканскай дзяржаўнасці, фундаментам якой будзе комплекс гістарычнай ахвяры. «Самае дрэннае ў комплексе гістарычнай ахвяры — тое, што ён можа стаць асновай палітычнага праекту. Такі праект лёгка падвяргаецца дэмагагічнай інструменталізацыі для захавання ўлады. Гэта атрутная формула лідарства такіх асобаў, як Пуцін, Трамп і г.д. (...) Мінулае сёння з'яўляецца паталагічнай структурай прыгнятальнікаў і прыгнечаных, і каб думаць пра роўныя адносіны, мы павінны глядзець у будучыню», — піша «El Mundo».

Ёсць на Пірэнеях у Абрадора і свае прыхільнікі. Левыя радыкалы з руху «Podemos» лічаць, што мексіканскі лідар мае рацыю. Так ці інакш, нехта павінен несці хаця б маральную адказнасць за забойства 80 мільёнаў чалавек — прыкладны кошт іспанскай каланізацыі Новага Свету. Узгадалі левакі таксама ментарскі тон Мадрыда ў дачыненні да былых амерыканскіх калоній. Напрыклад, той жа Педра Санчас з'яўляецца адным з ініцыятараў цяперашняй кампаніі за адстаўку венесуэльскага кіраўніка Нікаласа Мадура. У выпадку перамогі на красавіцкіх парламенцкіх выбарах, «Podemos» абяцае мексіканцам поўнае пакаянне.

Хутчэй за ўсё, па выніках тых выбараў і складу сфармаванага ўраду і вызначыцца канчаткова лінія Іспаніі наконт патрабаванняў Мексікі. А тыя патрабаванні, хутчэй за ўсё, будуць гучаць усё мацней як мінімум да 2021-га. У гэтым годзе плануецца шырока адзначаць 500-ю гадавіну штурму канкістадорамі сталіцы ацтэкаў Тэначтытлана, на руінах якой пабудаваная цяперашняя мексіканская сталіца.

# Украіна. Выбары. Неспадзяванкі

Вікторыя ЛАЎНІКЕВІЧ

**Вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў ва Украіне здзівілі мясцовых назіральнікаў. І хаця сацыёлагі прадказвалі, што пройдуць двое: Зяленскі і Парашэнка, ніхто не думаў, што разрыў паміж імі будзе настолькі вялікі.**



Фота www.ukraina.ru

## Раніцай пасля выбараў

Пётр Парашэнка назваў свабодныя і дэмакратычныя выбары прэзідэнта Украіны 2019 года «тэстам на еўрапейскасць». А таксама Парашэнка падзякаваў выбаршчыкам, «якія не засталіся дома». Прэзідэнт заявіў: украінцы прадэманстравалі, што «з'яўляюцца адказнымі грамадзянамі, якія хвалююцца за будучыню сваёй дзяржавы».

«Свабодныя і дэмакратычныя выбары — тэст на нашу еўрапейскасць, на нашу адпаведнасць еўрапейскай палітычнай культуры, цывілізацыйным стандартам Еўрапейскага саюза. І я перакананы ў тым, што гэты экзамен Украіна сёння здала паспяхова. І паўторыць гэта 21 красавіка», — сказаў Парашэнка.

## Выбары ў лічбах

Такога доўгага бюлетэня для галасавання на выбарах прэзідэнта на Украіне не было ніколі — у яго давялося ўключыць 39 кандыдатаў. Афіцыйныя вынікі павінны абвесціць 10 красавіка. Вынікі пасля падліку 99,88% бюлетэняў, паводле ЦВК, такія: Уладзімір Зяленскі атрымаў 30,23% галасоў, Пётр Парашэнка — 15,95%, Юлія Цімашэнка — 13,39%. Далей ідуць Юрый Бойка — 11,67%, Анатоль Грыцэнка — 6,91%, Ігар Смяшко — 6,04%, Алег Ляшко — 5,47%, Аляксандр Вілкул — 4,15%, Руслан Кашулінскі — 1,62%, Юрый Цімашэнка — 0,62%. І яшчэ 29 кандыдатаў з менш чым 1%

Што цікава, украінцы, якія жывуць за мяжой, прагаласавалі зусім інакш. Па выніках апрацоўкі 86,13% галасоў «замежнай выбарчай акругі», большасць украінцаў за мяжой падтрымалі дзеючага прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнку — ён набраў 38,23%. Уладзімір Зяленскі ўзяў 26,53% галасоў. Усяго за мяжой працаваў 101 выбарчы ўчастак, у галасаванні (выходзячы з колькасці падлічаных бюлетэняў) прынялі ўдзел 36 тысяч 713 выбаршчыкаў.

Нягледзячы на інтэнсіўную, на мяжы нервовага зрыву, выбарчую кампанію, вялікага наплыву жадаючых галасаваць не было. Да 15.00 на ўчастках пабывала толькі 45% украінскіх выбаршчыкаў, а да закрыцця ў 20.00 прагаласавалі 63,52%. Але і гэта нямала — звычайна яўка на выбарах ва Украіне не перавышае 30–40%. Гэтым разам яўка менш за 60% выбаршчыкаў была зафіксаваная ў Данецкай (59,51%), Закарпацкай (46,99%), Луганскай (56,76%), Адэскай (58,44%), Херсонскай (57,65%), Чарнавіцкай (56,07%) абласцях.

Амаль 11 мільёнаў украінцаў наогул не галасавалі. Колькасць унесеных у спіс выбаршчыкаў склала 29 мільёнаў 622 тысячы 821 чалавек. У той жа час бюлетэні на выбарчых участках атрымалі толькі 18 мільёнаў 817 тысяч 656 чалавек.

Дзейны кіраўнік дзяржавы Пётр Парашэнка атрымаў найбольшую падтрымку на захадзе і ў цэнтры краіны, а лідар гонкі — Зяленскі — на ўкраінскім поўдні і ўсходзе. Дакладней, за Зяленскага аддалі свае галасы 42% выбаршчыкаў паўднёвых і 30,7% усходніх абласцей. Парашэнку найбольш актыўна падтрымлівалі ў Заходняй (26%) і Цэнтральнай Украіне (19,5%). Лідара «Бацькаўшчыны» Юлію Цімашэнка больш за ўсё падтрымліваюць на захадзе (17,8%) і ў цэнтры краіны (17,5%).

## Кандыдат з тэлевізара

Яшчэ за тыдзень да галасавання многія мясцовыя паліталагі звязвалі будучы вынік перш за ўсё з надвор'ем. Агульны пасыл быў такі: электарат Уладзіміра Зяленскага — гэта моладзь і людзі, якія наогул адмаўляюць цяперашнюю ўкраінскую палітыку, — гэта значыць, тыя, хто або не ходзіць на выбары, або галасуе «супраць усіх». Наадварот, у Юліі Цімашэнка электарат самы дысцыплінаваны — гэта пенсіянеры, якія прыйдуць галасаваць у любое надвор'е.

Выбаршчыкі Пятра Парашэнкі — дзесьці пасярэдзіне. Так што калі б замест цёплага і сонечнага надвор'я ў нядзелю раніцай было б холадна і распачаўся дождж — яшчэ невядома, хто б выйшаў у другі тур разам з дзеючым кіраўніком дзяржавы.

Але цяпер украінцы жартуюць: «Хутка прэзідэнт ва Украіне будзе як у Расіі: маленькі, смешны і Вовачка». Характэрна, што сам Зяленскі хоць не знікае з экранаў тэлевізараў, за ўсю перадвыбарчую кампанію ні разу не з'явіўся ў прамым эфіры — ні ў ток-шоу, ні тым больш у тэледэбатах. Нават на тэлеканале «1+1», які належыць Каламойскаму, яго апошняе інтэрв'ю было запісана і змантавана.


Фота Дзіяны Пінчук

«Усё адно ўсе прагназавалі прыкладна такі вынік, які і атрымалі. Нечаканасцю стаў толькі значны адрыў Зяленскага. А Цімашэнка прайграла занадта паказальна, каб цяпер аспрэчваць вынікі выбараў на вуліцы. Бучу яна, вядома, падняць можа — але без асаблівага плёну, — сказаў у каментары для НЧ шэф-рэдактар кіеўскага выдання «Дзелавая сталіца» Віталь Піровіч. — А вось у Зяленскага зараз нешта накшталт «галавакружэння ад поспехаў». Ён цяпер не хоча ні з кім дамаўляцца, таму што лічыць, што зможа перамагчы самастойна. Але ў Парашэнкі шанцы ёсць. Ён можа прэтэндаваць на патрыятычна настроены электарат Цімашэнка. Яшчэ яму трэба мабілізаваць выбаршчыкаў Заходняй Украіны і адыграць у Зяленскага цэнтральную частку краіны. Гэта і будзе галоўнай інтрыгай другога тура».

«Слабое месца Зяленскага — гэта тое, што яму не ўдаецца роля ўкраінскага патрыёта, ды ён і не вельмі спрабуе яе выконваць. Нават украінскую мову ён добра не вывучыў. Зрэшты, менавіта гэта дазволіла яму набраць 30%, — сказаў НЧ украінскі палітычны аглядальнік Юры Вішнеўскі. — Найбольшая падтрымка Зяленскага — у паўднёвых і ўсходніх абласцях. І там ён з лёгкасцю падбярэ электарат адкрыта прарасійскіх кандыдатаў — Юрыя Бойкі і Аляксандра Вілкулы. Але не факт, што гэтага будзе дастаткова Зяленскаму для перамогі ў другім туры».

## Што будзе далей?

Неафіцыйная інфармацыя з журналісцкіх кулуараў такая: Цімашэнка ў шоку ад вынікаў галасавання. Яна настойвае на тым, каб разыгрываць карту з нібыта фальсіфікацыяй выбараў. Але на самай справе чальцы яе каманды ўжо пачалі перамовы са штабам Зяленскага. Гэтыя два палітыкі, з вялікай верагоднасцю, аб'ядноўць намаганні. Хаця б таму, што ў Зяленскага няма падтрымкі ў Вярхоўнай Радзе, затое яна ёсць у Цімашэнка. А ў кастрычніку — выбары ў парламент.

Для Зяленскага, калі ён паўторыць поспех першага тура і стане прэзідэнтам, будзе прынцыпова важна займець падтрымку ў парламенце, дзеля чаго ён можа пайсці на альянс з Цімашэнка і высунуць яе кандыдатуру на пасаду прэм'ер-міністра.

Што тычыцца Парашэнкі, то пакуль у самога прэзідэнта і яго штаба настрой даволі неблагі. Але зразумела, што яго паліттэхнолагі ўжо думаюць, як у другім туры перамагчы Зяленскага. Пакуль позва другога тура Парашэнка прыкладна такая: «Супраць марыянеткі Каламойскага. Пасмяяліся — і досыць».

Як перадае прэс-служба ўкраінскага прэзідэнта, раніцай у панядзелак, 1 красавіка, Парашэнка заявіў аб неабходнасці «татальнай мабілізацыі патрыётаў», у першую чаргу на Захадзе і ў цэнтры краіны. «Не варта разлічваць, што перамога ўжо ў нас у кішэні. Каб яе забяспечыць, цяпер, з гэтай хвіліны, нам патрэбна татальная мабілізацыя ўсіх украінскіх патрыётаў. Сама па сабе перамога не прыйдзе. Татальная мабілізацыя ўсіх, хто змагаецца за Украіну, — адкінуўшы ўсе палітычныя афарбоўкі, адкінуўшы ўсе крыўды, — і можа аб'ядначацца. Прыколы скончыліся», — заявіў Парашэнка.

Калі ж казаць пра іншых кандыдатаў: усіх здзівіў нізкі вынік Анатоля Грыцэнкі — нават пасля ўсіх аб'яднанняў з канкурэнтамі. Таксама здзівіў — але з адваротным знакам — былы кіраўнік СБУ Ігар Смяшко. Падобна на тое, што гэта ён адабраў галасы ў іншы «цвёрдай рукі» — Грыцэнкі. І хоць яго прыкладна 6%, на першы погляд, не занадта ўражваюць, але не трэба забываць, што пра персону Смяшко яшчэ пару месяцаў таму ў краіне ўвогуле мала хто ведаў — ён і блізка не ўваходзіў у абойму «першых палітыкаў краіны». Сёння ж, атрымаўшы шостае месца на выбарах прэзідэнта, Ігар Пятровіч нечакана для многіх стаў уладальнікам калі не «залатой», то, як мінімум, «сярэбранай акцыі».

Таксама здзівіў высокі вынік Юрыя Бойкі — пры тым, што ў яго было яшчэ два канкурэнты з адкрыта прарасійскай пазіцыяй. А вось Алег Ляшко згубляе пазіцыі і выходзіць з моды — канкураваць з Зяленскім у яго не атрымалася. Што характэрна, у сваім гумарыстычным шоу «Вячэрні квартал» і ў камедыйным серыяле «Недатыкальныя» Уладзімір Зяленскі як акцёр звычайна парадзіраваў менавіта Ляшко.

У любым выпадку, пакуль нельга адназначна заяўляць, што Зяленскі выйграў, а Парашэнка прайграў. На самай справе, гэты разрыў лёгка ліквідуецца. Каманда Парашэнкі будзе ствараць інфармацыйныя нагоды, яна перахопіць ініцыятыву — проста таму, што ў яе больш вопыту. І зараз Зяленскаму давядзецца адказваць на выклікі апанента: выходзіць у людзі, паказваць сябе, спаборнічаць у рыторыцы. Гэта гульня з адмабілізаваным і падрыхтаваным супернікам на чужым полі.

Таксама нельга выключыць пэўных кадравых прызначэнняў, якія Парашэнка зробіць, каб прыцягнуць на свой бок прыхільнікаў тых кандыдатаў, якія вылецелі ў першым туры. Варыянтаў у яго вельмі шмат. І, як заўсёды, ідыёцкая пазіцыя расійскага боку, якая публічна распісваецца ў падтрымцы Зяленскага, толькі гуляе Парашэнку на руку, збіраючы вакол яго тых, хто не галасаваў за яго ў першым туры. Уся барацьба наперадзе.

Другі тур выбараў адбудзецца 21 красавіка.

# Ахвяры «мядовага месяца дыктатараў»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**На працягу міжваеннага дваццацігоддзя Савецкі Саюз рыхтаваўся да вайны супраць «капіталістычнага свету». Найбольш верагодным праціўнікам у будучым супрацьстаянні лічылася Польшча. У Крамлі памяталі паразу Чырвонай Арміі, атрыманую пад Варшавай у 1920 годзе, і хацелі рэваншу. Зручны момант прыйшоў у 1939 годзе.**

1 верасня Гітлер распачаў Другую сусветную вайну, але, насуперак чаканням нацыстаў, СССР не кінуў свае войскі супраць Польшчы. Толькі тады, калі Сталін зразумеў, што Францыя і Вялікабрытанія не збіраюцца весці супраць немцаў актыўных баявых дзеянняў, калі ўбачыў, што лёс Другой Рэчы Паспалітай прадвызначаны, тады савецкі дыктатар вырашыў «падаць руку дапамогі братам беларусам і ўкраінцам».

## Лагеры для «класавых ворагаў»

Ужо 17 верасня 1939 года Лаўрэнцій Берыя накіраваў «прэм'еру» Вячаславу Молатаву нататку, у якой «прасіў» стварыць у памежнай, а па сутнасці, прыфрантавой з Польшчай паласе восем прыёмных пунктаў для вайсковапалонных і два лагеры-размеркавальнікі ў Казельску (для БССР) і Пуціўлі (для УССР). Пункты канцэнтрацыі палонных польскіх жаўнераў, афіцэраў і паліцыянтаў на тэрыторыі савецкай Беларусі арганізоўваліся ў Жыткавічах, Стоўбцах, Цімкавічах, Арахоўна, Радашковічах.

Ахоўваць палонных павінны былі канвойныя войскі НКУС, якія, у сувязі з «вызвольным паходам» адмабілізавалі і перавялі на палажэнне вайсковага часу. Да лініі дзяржаўнай мяжы палонных польскіх вайскоўцаў і супрацоўнікаў Дзяржаўнай паліцыі павінны былі суправаджаць «спецыяльныя каманды», вылучаныя са стралковых ротаў і кавалерыйскіх эскадронаў. Аднак часцей за ўсё калоны, якія рухаліся ў зборныя пункты, ахоўвалі савецкія памежнікі.

Вось як апісваў палонных польскіх вайскоўцаў адзін з савецкіх рэпарцёраў, які ў верасні 1939 года працаваў у Заходняй Беларусі:

«Я ўглядаўся ў твары афіцэраў, пашыхтаваных у полі, побач з шашой. На адных тварах […] — адчай. На іншых нават жах перад тым, што здарылася, не мог пагасіць нянавісці. […] Я выбраў у гэтым натоўпе аднаго афіцэра. […] Не, па-руску ён не гаварыў. Затое ён добра гаварыў па-французску. […]

— Я павінен ведаць: я арыштаваны ці палонны?

— Вы палонны. Польскія афіцэры вялі вайну супраць Чырвонай Арміі. Такім чынам, вы з'яўляецеся палонным.

— Тады я прашу мяне перакінуць у Францыю. Я буду змагацца ў польскім легіёне супраць Германіі. […]

— Не, у Францыю вам не прыйдзецца ехаць, былы афіцэр польскага войска. Вам не прыйдзецца ехаць і ў ваш радавы маёнтак. […]

Потым палонных афіцэраў пашыхтавалі і павялі. Яны ішлі вайсковым крокам. І наперадзе, трохкутнікам, з крумкачынымі дзюбамі брылёў, акаваных меддзю, крочылі жандары, як быццам пацвярджаючы канец панскай Польшчы».

## Польскія палонныя ў горадзе Ізяслава

Больш глыбокі аналіз тых падзей дазваляе сцвярджаць, што, акрамя ўзгаданых вышэй, зборны пункт для польскіх палонных быў і ў памежным Заслаўі. Некалькі гадоў таму я ля заслаўскага мікрараёна Хмялеўка выпадкова знайшоў польскі вайсковы «Стралковы знак». Да вайны тут была тэрыторыя БССР. Як артэфакт аказаўся побач з Заслаўем?

Потым гістарычны пазл склаўся: па старой радашковіцкай дарозе, побач з якой я знайшоў артэфакт, у Заслаўе вялі польскіх палонных. Магчыма, польскі жаўнер, каб не прыцягваць увагу НКУС, вырашыў выкінуць гэтую адзнаку.

Жыхары вёскі Шапавалы, дзе да вайны знаходзілася стражніца польскага Корпуса аховы памежжа (КАП), адзначалі, што захопленых у палон 17 верасня 1939 года польскіх памежнікаў пагналі ў Заслаўе. Там жа ад ранаў памёр і камандзір стражніцы КАП «Шапавалы» капрал Нядзельскі.

Паводле ўспамінаў Аліцыі Мілер, у горад Ізяслава пагналі і арыштаваных у памежным Ракаве супрацоўнікаў польскай Дзяржаўнай паліцыі. Сярод іншых там быў і яе тата. Уладзімір Лунь скончыў 7 класаў, адслужыў у войску, а пазней адвучыўся ў Школе паліцыі ў Вялікіх Мастах на Львоўшчыне. Пасля гэтага ён быў пераведзены на службу ў мястэчка Гарадок Маладзечанскага павета, а праз паўгады паліцыянта перавялі ў паліцэйскі ўчастак у Ракаве. У жніўні 1939 года 31-гадовы «пастарунковы» ажаніўся з мясцовай дзяўчынай.



Верасень 1939 года Чырвоная Армія ў Ракаве

«Немцы да Ракава не дайшлі, а вось Саветы 17 верасня сюды прыйшлі. Мама казала, што бацька ў форме выбег з дома і пабег ва ўчастак. Там ён сустрэў каменданта Дзванкоўскага, які ў бялізне паліў сакрэтныя паперы, каб тыя не трапілі ў рукі ворага. Хутка іх арыштавалі і перавезлі ў Заслаўе», — узгадвае ва ўспамінах Аліцыя Мілер.

## Эшалон на Усход

Дзе дакладна ў Заслаўі трымалі палонных польскіх вайскоўцаў у верасні 1939 года, сёння сказаць цяжка. Дакументальных сведчанняў пра гэта не захавалася. Можна дапусціць, што іх размясцілі побач з гарнізонам 15-га памежнага атрада ля чыгуначнай станцыі «Беларусь» і пасля накіравалі ў Мінск, а далей — у лагеры.

Варта адзначыць, што падобная сітуацыя адбывалася і на тэрыторыі УССР. Паводле савецкіх дакументаў, толькі 19 верасня 1939 года ў месца дыслакацыі 19-га Алеўскага атрада памежных войскаў НКУС СССР было дастаўлена 17 (!) эшалонаў з палоннымі польскімі вайскоўцамі.

З канцэнтрацыйных пунктаў, створаных на мяжы, у лагеры на Усход палонных польскіх жаўнераў і паліцыянтаў перавозілі чыгуначным транспартам. Вось як адзін з савецкіх чыгуначнікаў апісваў тыя падзеі:

«У той час я працаваў машыністам у Мінскім паравозным дэпо. З другой паловы верасня да пачатку кастрычніка 1939 года з буржуазнай Польшчы я вадзіў цягнікі са станцыі Баранавічы ў Мінск і Смаленск. З Мінска, з таварнай станцыі мы вялі пусты цягнік, на вокнах рашоткі, да яго яшчэ прычаплялі вагоны-цялянікі без вокнаў. […] У Баранавічах у гэтыя вагоны супрацоўнікі НКУС загружалі вайсковапалонных афіцэраў, і мы вярталіся ў Мінск на таварную станцыю. Нам заўсёды давалі зялёнае святло. Мой памочнік, калі спыняліся, каб заправіць вадой кацёл паравоза ля паравозных калонак на станцыях Стоўбцы ці Негарэлае, браў маслёнку і падліваў алей у буксы вагонаў. Займаючыся сваёй справай, чуў глухія галасы на польскай мове. У паравознай будцы і туды, і назад нас увесь час суправаджаў супрацоўнік НКУС. […] На таварнай станцыі ў Мінску, да «рамкі» падавалі «варанкі», у якія як «селядцоў у бочкі» набівалі людзей і везлі ў Мінскую турму. Наш цягнік заўсёды чакала шматлікая ахова з сабакамі — нямецкімі аўчаркамі, а ўбаку стаялі «варанкі». Нас суправаджалі супрацоўнікі НКУС у форме: сінія галіфэ, бліскучыя скураныя боты, на зялёных гімнасцёрках чырвоныя пятліцы».

Адным з тых, хто ехаў у вагонах-цялятніках на Усход, быў сямнаццацігадовы Генрых Вецэк. Перад самай вайной малады хлопец з Пінска ўступіў у батальён нацыянальнай абароны, але хутка апынуўся ў савецкім палоне. Праз некалькі дзён ён і яшчэ некалькі дзясяткаў яго таварышаў па службе ў таварным вагоне ехалі ў бок БССР. Усю дарогу польскіх «палонных» супакойвалі, што яны едуць «дадому». На кожнай станцыі склад шчыльным колам атачалі вайскоўцы НКУС. Да цягніка пастаянна дадаваліся новыя вагоны з людзьмі. Мяжа ў раёне Стоўбцы-Негарэлае зрабіла на «пасажыраў» эшалона панурае ўражанне. Высечаная двухсотметровая паласа пасярод лесу, тунэлі пад чыгуначнымі шляхамі і дзясяткі салдат у характэрных блакітных фуражках з вінтоўкамі.

Маладому хлопцу запомніўся такі эпізод. У Негарэлым, прама перад чыгуначнай станцыяй, была насыпана велізарная, вышынёй з двухпавярховы будынак, піраміда збожжа. Пшаніца была савецкім трафеем. Яе прывозілі з польскай тэрыторыі і згружалі на першай савецкай станцыі. «Што ж яны робяць? — думаў Генрых. — Зараз канец верасня, дождж, холадна, зерне знікне». Неўзабаве цягнік рушыў далей. Мінск, Смаленск… І нават там гэтым няшчасным людзям казалі, што яны едуць «дадому».

## Катынская трагедыя

Лёс гэтых ахвяр «мядовага месяца дыктатараў» быў, у сваёй большасці, трагічны. Афіцэраў, паліцыянтаў, супрацоўнікаў КАП расстралялі ўвесну 1940 года. Іншым пашчасціла больш. Да чэрвеня 1941 года значная частка так званага «польскага кантынгенту» працавала ў шахтах, каменяломнях і іншых будоўлях ГУЛАГу, а пасля нападу Германіі на СССР уступіла ў «Армію Андэрса» і пакінула «нечалавечую зямлю», каб працягнуць барацьбу супраць нацызму.

«Пазней, пасля вайны, неяк сярод нас, машыністаў, узніклі размовы пра тыя даваенныя гады. Адзін з маіх добрых сяброў пад вялікім сакрэтам расказаў мне, што ён польскіх вайсковапалонных адвозіў у Казельск (там знаходзіўся лагер. — І.М.), які ляжаў на чыгуначнай лініі Тула—Смаленск у 250 кіламетрах на паўночны ўсход ад Смаленска. А са Смаленска вайсковапалонных на «варанках» адвозілі ў Катынь, ці Катынскі лес, і там расстрэльвалі. Як ён узгадваў, гэта былі польскія кадравыя вайскоўцы, у асноўным сяржанты і афіцэры запасу, прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія былі мабілізаваныя ў пачатку верасня 1939 года ў войска», — адзначаў згаданы вышэй машыніст.

Катынь была не адзіным месцам, дзе бальшавікі знішчалі польскіх палонных. Каменданта паліцыі з Ракава Казімера Дзванкоўскага з Заслаўя вывезлі ў Мінск, а адтуль у Асташкаўскі лагер, дзе трымалі былых супрацоўнікаў польскай Дзяржаўнай паліцыі. У красавіку-траўні 1940 года вязняў гэтага лагера расстралялі ў турме горада Калінін (зараз Цвер) і пахавалі ля пасёлка Меднае. Сярод больш чым 6 тысяч ахвяр таго расстрэлу былі і паліцыянты з Ракава. Пастарунковы Уладзімір Лунь прайшоў праз турмы ў Маладзечна, Вільні, Чэрвені, а 9 траўня 1940 года яго перавезлі ў Мінск, дзе сляды яго губляюцца…



Савецкія памежнікі пераходзяць савецка-польскую мяжу

Фота з архіву аўтара

# Шляхціча з-пад Клічава рэпрэсавалі за фота маці вакаліста «Aerosmith»

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Якая сувязь між савецкімі рэпрэсіямі, вакалістам «Aerosmith» Стывенам Тайлерам і польскамоўным пісьменнікам Фларыянам Чарнышэвічам (1900–1964)? На першы погляд, ніякай. Аднак не ўсё так адназначна. Дзед спевака быў родным братам пісьменніка, эміграваў у ЗША з тэрыторыі цяперашняга Клічаўскага раёна і дасылаў сваякам лісты, якія і сталі нагодай для расстрэлу іх трэцяга брата.**




СПРАВКА

ВЕРХОВНЫЙ СУД БЕЛОРУССКОЙ ССР
220681, г. Минск, ул. Ленина, 28
17 января 1991 г.
№ 5-10

Дело по обвинению Чернушевича Бернарда Францевича, 1902 года рождения, уроженца д.Пересек, бывшего Кличевского района, Могилевской области, до ареста работал крепильщиком шахты им.В.И.Ленина Горловского рудоуправления Донбас

пересмотрено Верховным судом БССР 29 июня 1963 г.

Постановление Особой Тройки НКВД БССР от 7 сентября 1937 г. в отношении Чернушевича Бернарда Францевича

отменено и дело прекращено за отсутствием состава преступления.

Чернушевич Б.Ф. по данному делу реабилитирован

И.О. Первый заместитель председателя В.Н.Пташник

10-9-86 г. Зак. 2274 Тир. 3000 Минск, тип. Белсовпрофа

**Дакументы з сямейнага архіву Ірыны Рэва. У дакументах прозвішча Бярнарда запісана як Чарнушэвіч. Верагодна, гэта памылковае прачытанне польскага Czarnyszewicz**


The Statue of Liberty-Ellis Island Foundation, Inc.
*proudly presents this*
*Official Certificate of Registration*
*for*
THE AMERICAN IMMIGRANT WALL OF HONOR®
*to officially certify that*
Felix C. Czarnyszewicz
*came to the United States of America from*
~~Russia~~ POLAND
joining those courageous men and women who came to this country in search of personal freedom, economic opportunity and a better future for their families.

Lee A. Iacocca
The Statue of Liberty-Ellis Island Foundation, Inc.



На здымку — сям'я Фелікса Бланча (Чарнышэвіча) у ЗША, 1930-я гады: сам Фелікс, яго жонка Бэсі, іх дзеці Сьюзан (маці Стывена Тайлера, справа), Соня і Эрвін. На фота няма яшчэ аднаго сына, Эдварда. Фелікс Чарнышэвіч з'ехаў у Амерыку на заробкі ў 1914 годзе і памяняў прозвішча на «Blancha» (у англійскім вымаўленні «Бланча»).

Магчыма, змена прозвішча спатрэбілася дзеля лягчэйшага ўладкавання ў ЗША, вымавіць «Чарнышэвіч» англамоўнаму чалавеку было б складана. Амерыканская даследчыца Мэган Смаляняк (Megan Smolenyak) знайшла дакументы, згодна з якімі Фелікс Чарнышэвіч на параходзе ў ЗША назваў месцам свайго нараджэння Бабруйск, а нацыянальнасць — паляк.

Польскі даследчык біяграфіі пісьменніка Фларыяна Чарнышэвіча Барташ Байкуў лічыць «польскасць» беларускай шляхты адсылкай да даўняй Рэчы Паспалітай, адгалоскам існавання супольнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны. У раманах Фларыяна Чарнышэвіча «Надбярэзінцы» і «Віцік Жывіца» гучыць слова «Беларусь», але сялян пісьменнік называе «рускімі», піша «апрануцца па-руску» (у сялянскі строй). «Рускі» выступае як сінонім «праваслаўнага». «Паляк» сустракаецца ў значэнні «католік», адначасова ўсё больш фігуруючы як этнонім і як назнака шляхецтва. Пісьменнік узгадвае, напрыклад, «праваслаўных палякаў», калі піша пра шляхту, што адышла ад каталіцтва праз тое, што паблізу не было касцёла.

Ксёндз Анджэй з Бабруйска, што раз на два тыдні служыць імшу ў Клічаве, кажа, што каталіцтва і польскасць для яго прыхаджан непарыўна звязаныя. Нават калі гутарыць пра яго наведванне Італіі, пытаюцца: «На якой мове вы там размаўлялі з католікамі? Па-польску?» Праўда, набажэнствы ў Клічаве наведваюць рэгулярна пераважна людзі, што ўжо ў савецкі час пераехалі з Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, ці іх нашчадкі. З мясцовых католікаў засталося толькі дзве кабеты з вёскі Юзафін, астатнія ўжо на могілках.

На сайце geni.com унук Фелікса Чарнышэвіча Скот Бланча выставіў сертыфікат рэгістрацыі, згодна з якім яго дзед прыехаў у ЗША з Расіі (закрэслена пазней? і напісана «З Польшчы») як Felix C. Czarnyszewicz. Мэган Смаляняк піша, што такое прозвішча фігуруе і ў пасведчанні Фелікса аб шлюбе (ён ажаніўся ў 1925 годзе). Такім чынам, невядома дакладна, калі было зменена прозвішча.

Сямейны здымак Фелікс выслаў свайму брату Бярнарду Чарнышэвічу, які жыў у вёсцы Вялічкава (цяпер Бабруйскі раён). Паводле звестак унучкі Бярнарда Ірыны Рэва, яе дзед пераехаў у Вялічкава, калі ажаніўся на пачатку 1920-х гадоў са шляхцянкай Ядвігай Сікорскай, якая была адтуль родам. Яго бацькі засталіся жыць у вёсцы Перасека Клічаўскага раёна, што, падобна, і стала правобразам Смалярні з «Надбярэзінцаў» Фларыяна Чарнышэвіча.

Фелікс і Бярнард даволі доўга ды інтэнсіўна ліставаліся. А ў СССР, як вядома, мець сваякоў за мяжой, ды яшчэ падтрымліваць з імі сувязь, было небяспечна для жыцця. Аднак Бярнарда гэта чамусьці не дужа хвалявала. Атрымаўшы фота, ён з гонарам паказаў яго ўсім аднавяскоўцам. Да таго ж, пераказваў лісты брата аб тым, як добра жывецца ў ЗША. Тады нехта папярэдзіў Бярнарда, што ўзялі шмат людзей у ваколіцах і, магчыма, рыхтуецца яго арышт.

Нагодай для рэпрэсій маглі стаць не толькі лісты з Амерыкі, а і шляхецкае паходжанне ды каталіцкае веравызнанне мужчыны. Побыт дробнай шляхты ў ваколіцах Бабруйска апісаў у аўтабіяграфічным рамане «Надбярэзінцы» брат Бярнарда Фларыян Чарнышэвіч. У кнізе, праўда, ідзе размова пра 1911–1920 гады. Там згадваецца і брат у Амерыцы, да якога мае намер ехаць галоўны герой, але яму замінае выбух Першай сусветнай вайны.

Бярнард не стаў чакаць, пакуль па яго прыйдуць, і з'ехаў на Данбас працаваць у шахтах, пакінуўшы ў Вялічкаве сям'ю. Ён час ад часу прыязджаў на некалькі дзён, але не паказваўся на вуліцы. Яго жонка прасіла дзяцей нікому не распавядаць, што тата дома. Лісты ад брата з Амерыкі працягваў атрымліваць, але ўжо праз трэція, калі не дзясятыя, рукі. Пасля адной з паездак дамоў Бярнарда «ўзялі» на Данбасе. Гэта адбылося 21 лютага 1937 года.

Унучка Бярнарда, Ірына Рэва, жыве ў горадзе Кіраўску Магілёўскай вобласці. Яна падзялілася з Клічаўскім краязнаўчым музеем фотаздымкамі ды гісторыямі з сямейнага архіву. Дзякуючы музею мы з Ірынай Сцяпанаўнай і пазнаёміліся. Паводле яе словаў, на пачатку 1990-х гадоў, калі яшчэ можна было трапіць у архівы КДБ, яна гартала справу дзеда. Са скандалам і крыкамі, але дакументы ёй далі. Супрацоўнікі крычалі, маўляў, чаго ездзіце то вы, то ваша маці. Леакадзія Бярнардаўна, дачка рэпрэсаванага, цікавілася лёсам бацькі і таксама наведвала архіў Упраўлення КДБ у Магілёве. Яна памерла ў лістападзе 2018 года, будучы пры памяці і паспеўшы шмат чаго распавесці дачцэ Ірыне.

Паводле словаў Ірыны Сцяпанаўны, у справе яе дзеда пазначана: той казаў на допытах, што не мае нічога супраць савецкай улады, але ў Амерыцы жыць лепш. Гэта адзіная яго віна. З Данбаса арыштаванага этапавалі ў Бабруйск. Ён сядзеў у Бабруйскай крэпасці, Леакадзія Бярнардаўна ўзгадвала, што дзяцей да яго пускалі, яна хадзіла, размаўляла з бацькам. Бярнарда расстралялі 17 верасня 1937 года ці то ў самім Бабруйску, ці то каля недалёкай вёскі Міхалёва.

Але Ірына Рэва памятае з дзяцінства, нібыта прыходзіла папера аб тым, што Бярнард Францавіч памёр ад сухотаў у Ніжнім Тагіле. Адшукаць паперу ў сямейным архіве яна не змагла. Жанчына мяркуе, што ў дакументах магілёўскага КДБ маглі пазначыць, што ён расстраляны, а дэ-факта выслаць на работы.

У 1963 годзе Бярнард Францавіч Чарнышэвіч быў рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР «за адсутнасцю склада злачынства», а яго дачка, Леакадзія Бярнардаўна Іваніцкая, прызнаная пацярпелай ад палітычных рэпрэсій.



**Шлюбны здымак Бярнарда Чарнышэвіча і Ядвігі Сікорскай. За імі стаяць сястра Ядвігі Анця і брат Бярнарда Станіслаў**

# БагатаДата

**Вы ведаеце, што агульнага паміж паўночным Тыбетам і шляхецкім родам Перавальскіх? А хто быў першым беларусам, які ўзначаліў ЦК КПБ? Шмат іншых цікавостак у нашым аглядзе.**

## 6 красавіка

**1909.** Нарадзіўся Гаўрыіл Павецьеў, дырэктар Мінскага юрыдычнага інстытута. Пасля яго ўключэння ў Белдзяржуніверсітэт у статусе юрфака стаў прарэктарам галоўнай ВНУ Беларусі па навуковай частцы.

**1999.** Пайшоў з жыцця беларускі навуковец і палітык Генадзь Карпенка. Працаваў дырэктарам Маладзечанскага завода парашковай металургіі, затым мэрам Маладзечна, дзе запачаткаваў музычны і тэатральны фестывалі, стварыў футбольны клуб і дэсаветызаваў гарадскую тапаніміку. У Вярхоўным Савеце 12-га скліканне кіраваў камісіяй па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе, бо быў навукоўцам: абараніў доктарскую дысертацыю па тэхналогіі матэрыялаў, з'яўляўся членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, зрабіў больш за паўсотню вынаходніцтваў.



**Злева направа: Юры Хадыка, Юры Захаранка, Генадзь Карпенка.** Фота з архіву сям'і Хадыкаў

У парламенце 13 склікання быў віцэ-спікерам, кіраваў спробай імпічменту Лукашэнку. Адзін з лідараў апазіцыі, лічыўся асноўным супернікам Лукашэнкі на выбарах–2001. Але 31 сакавіка 1999 года Генадзь Карпенка быў шпіталізаваны з дыягназам «крывацёк у мозг». Пасля аперацыі знаходзіўся ў несвядомым стане і памёр раніцай 6 красавіка. Былы кіраўнік МУС Юрый Захаранка лічыў, што раптоўная смерць 49-гадовага Генадзя Карпенкі, які дагэтуль не скардзіўся на здароўе, была справай рук уладаў. Праз месяц знік сам Захаранка.

## 7 красавіка

**Сусветны дзень здароўя.**

**1914.** У вёсцы Рудня-Прыбыткоўская, якая цяпер у Гомельскім раёне, нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Кірыл Мазураў. Стаў у 1956 годзе першым беларусам на чале ЦК КПБ (калі не лічыць Васіля Шаранговіча, які пабыў першым сакратаром некалькі месяцаў у 1937 годзе і быў расстраляны). Затым Мазураў быў першым намеснікам старшыні Саўміну СССР.

Менавіта за кіраваннем у БССР Мазурава адбыўся эпізод з вядомым выслоўем Мікіты Хрушчова: «Чем быстрее все мы будем разговаривать по-русски, тем быстрее построим коммунизм». Такой была ягоная рэакцыя праз некаторы час на даклад Мазурава ў студзені 1959 года з нагоды 40-годдзя БССР, зачытаны па-беларуску.

## 8 красавіка

У Беларусі адзначаецца **Дзень супрацоўнікаў ваенных камісарыятаў.**

**1999.** З-пад хатняга арышту ва ўласнай кватэры ўцякла былая старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Тамара Віннікава. Арыштаваная яна была ў 1997 годзе па абвінавачванні ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў, што пацягнула шкоду



дзяржаве ў буйных памерах. Пасля ўцёкаў пра Віннікаву некалькі месяцаў не было чуваць. Азвалася банкірка ў снежні 1999 года ў Лондане, заявіўшы пра пераслед з боку ўладаў Беларусі па палітычных матывах. У інтэрв'ю незалежным СМІ распавядала, што збегчы ўдалося праз шчаслівы выпадак, бо ёй было наканавана памерці.

## 9 красавіка

**1899.** У Мінску нарадзіўся тэатральны дзеяч Леў Літвінаў (сапраўднае прозвішча — Гурэвіч). Быў галоўным рэжысёрам Купалаўскага тэатра, а затым тэатра імя Качалава ў Казані, дзе і памёр. Прэм'ера славутага спектакля Купалаўскага «Паўлінка» адбылася ў 1943 годзе падчас эвакуацыі ў расійскім Томску менавіта ў пастаноўцы Літвінава.

## 10 красавіка

**Міжнародны дзень руху Супраціву** — на знак пашаны тым, хто змагаўся з фашызмам падчас Другой сусветнай вайны.

**1944.** У вёсцы Забалацце Нясвіжскага раёна нарадзіўся Аляксандр Абрамовіч, старшыня Цэнтрвыбаркаму Беларусі ў 1992–1996 гадах. Затым — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта і намеснік старшыні Савету Рэспублікі. Памёр у снежні мінулага года.

## 11 красавіка

**Міжнародны дзень вызвалення вязняў канцлагераў** — у гэты дзень у 1945 годзе адбылося паўстанне вязняў Бухенвальда.

**1919.** У Санкт-Пецярбургу нарадзіўся оперны рэжысёр Дзмітрый Смоліч. Працаваў галоўным рэжысёрам шмат у якіх тэатрах оперы і балета былога СССР. У тым ліку і ў Мінску ў 1962–1969 гадах (пастаноўкі «Атэла», «Трубадур», «Хаваншчына», «Алеся», «Брэсцкая крэпасць»). Быў і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

**1954.** Ва Уладзімірскай вобласці Расіі нарадзіўся Леанід Анфімаў, старшыня ад 2014 года Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі. Таксама займаў пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, намесніка старшыні КДК, намесніка старшыні Мінгарвыканкаму.

## 12 красавіка

**Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі** (або першага палёту чалавека ў космас).




**1839.** У вёсцы Кімбарава Смаленскай вобласці нарадзіўся славуты падарожнік, географ і даследчык Цэнтральнай Азіі беларускага паходжання Мікалай Пржавальскі. Належаў да беларускага шляхецкага роду Перавальскіх, з цягам часу прозвішча паланізавалася. Грунтоўна даследаваў горную сістэму Кунь-Луня, хрыбты Паўночнага Тыбету, басейны Лоб-Нара і Куку-Нара, а таксама вытокаў Жоўтай ракі. Акрамя таго, ім быў адкрыты цэлы шэраг новых відаў жывёл — напрыклад, дзікі вярблюд і конь Пржавальскага.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №526

Падпісана да друку 5.04.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.